
ЗАНІ, 1946 г. МЫ ПОМНІМ ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Лукша з Цісоўкі ➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 04 (3115) Год LXI Беластокˌ 24 студзеня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Размеркаванне па-над перапісам

**Сумы датацый, размеркаваныя на гэты год Міністэрствам адміністрацыі і ўнутраных спраў на «рэалізацыю задач, накіраваных на абарону, захаванне і развіццё культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей і захаванне ды развіццё рэгіянальнай мовы» падобныя да мінулагодніх. Раней яны размяркоўваліся Міністэрствам адміністрацыі і лічбавізацыі, але займаліся імі тыя ж чыноўнікі. З пункту гледжання пераважнай большасці беларускіх арганізацый, якія іх атрымліваюць, безумоўна, яны недастатковыя на падрыхтоўваныя імі праекты. Простым вокам можна ўбачыць неадпаведнасць паміж велічынёй субсідый прызначаных беларусам, параўноўваючы іх з украінцамі, асабліва ў кантэксце шматлюднасці абедзвюх меншасцей на Падляшшы згодна апошняму перапісу і вынікаючых з гэтым фактам патрэб.**




Па дадзеных перапісу насельніцтва ў 2011 г. у Польшчы пражывала амаль 39 тысяч украінцаў, гэта значыць грамадзян гэтай нацыянальнасці, якія адпавядаюць крытэрыям, выкладзеным у дачыненні да тэрміну «меншасць» у адпаведнасці з Законам аб нацыянальных і этнічных меншасцях. На Падляшшы ёсць іх менш чым 2 200 чалавек. Беларусаў (па гэтым спісе і гэтых крытэрыях) пражывае на Падляшшы амаль 38 500, а ў краіне амаль 44 000. Тут вось здэкларыраваных беларусаў амаль дваццаць разоў больш, чым украінцаў.

Саюз украінцаў Падляшша — як гэта прызнана ў міністэрскіх датацыйных рамках — на сваю дзейнасць атрымаў 23 тысячы злотых, не лічачы набыцця офіснага абсталявання для гэтых мэт (10 тыс. зл.), а Саюз украінцаў у Польшчы — які вядзе дзейнасць таксама на Падляшшы — у рамках бягучай дзейнасці можа ўжо разлічваць на міністэрскае фінансаванне ў памеры 210 тысяч злотых. Падобная да СУуП у абсягу дзеяння (па-за мясцовым, таксама агульнапольскім), найбуйнейшая беларуская арганізацыя ў Польшчы — Беларускае грамадска-культурнае таварыства на офісныя патрэбы (утрыманне будынка-камяніцы па вул. Варшаўскай у Беластоку, з ацяпленнем, якое штомесяц дасягае амаль 2 тыс. зл., паўштату і г. д.) з міністэрскіх фондаў можа разлічваць на 49 тысяч злотых. Усе гэтыя сумы такія ж, як у мінулым годзе. Не ўспамінаю тут нічога пра грошы перададзеныя ў гэтым годзе на дзейнасць Цэнтраў украінскай культуры ў Польшчы, якія вядзе Саюз украінцаў у Польшчы — 248 тысяч злотых.

Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ:

— Гэтае размеркаванне несправядлівае, непрапарцыйнае адносна ліку нацыянальных меншасцей, і, такім чынам да культурных патрэб нацыянальных меншасцей. Гэта дзіўнае размеркаванне. Шмат гадоў таму, калі ўжо датацыя на офісныя патрэбы была першы раз непрапарцыянальная, калі гаворка пра нас і ўкраінцаў, я ставіў гэтае пытанне на сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей, але тады была зроблена высνова, што ўкраінцы маюць сваю асаблівую спецыфіку, таму што ў іх ёсць шмат цэнтраў, раскіданых па ўсёй краіне і гэта тычыцца іх утрымання. Мы аналагічна маглі б мець такія цэнтры ў гэтых паветах, дзе пражывае вялікая колькасць беларусаў, напрыклад, у Гайнаўцы, Сямятычах, Бельску-Падляшскім, Дуброве-Беластоцкай ці Саколцы. Мы не ствараем іх, таму што дзяржава даўно адмовілася ствараць нам паветовыя цэнтры, яшчэ да прыняцця закона аб нацыянальных меншасцях у 2005 годзе, а затым гэта было санкцыянавана і падтрымліваецца да гэтага часу.

Андрэй Артэмюк, старшыня СУП:

— У рамках субсідыі на офісныя патрэбы мы плацім за арэнду памяшкання і аплачваем працу бухгалтаркі. Нават не маем паўштату.

## Датацыі для калектываў

Саюз украінцаў Падляшша — як гэта прызнана ў міністэрскіх дакументах — на фестывалі ўкраінскай культуры і традыцыі на Падляшшы атрымае 147 тысяч 870 злотых. Гэта дзіўнае вызначэнне, паколькі ўсе фестывалі, іншыя мерапрыемствы і г.д. іншых меншасцей дакладна названы і пералічаны сумы на іх у рамках датацыі МУСіА. Гэтак жа, як, напрыклад, і некаторыя мерапрыемствы СУП, скажам, радыёперадачы на ўкраінскай мове «Українське слово» (26, 6 тыс. зл.), але і «Сустрэча з падляшскім фальклорам, традыцыяй і ўкраінскай песняй: Сустрэча з калядкай і шчэдрыўкай», Конкурс украінскай песні «З Підляської криниці», Дэкламатарскі конкурсу «Українське слово» (у агульнай складанасці больш чым 21,6 тыс. зл.).

Для вядзення хароў і ансамбляў СУуП атрымае 142 тысячы злотых, а Саюз украінцаў Падляшша на дзейнасць калектываў мастацкай самадзейнасці — 57,4 тыс. злотых. У сваю чаргу на дзейнасць самадзейных калектываў Таварыству беларускай культуры міністэрства ў гэтым годзе мае перадаць 85 тысяч злотых (столькі ж, як і летась). Гэтая сума з'яўляецца забеспячэннем супрацоўніцтва Таварыства з больш за шэсцьдзясят калектывамі, у тым ліку пакрыць ганарары для каля дзесяці інструктараў, якія пастаянна супрацоўнічаюць з калектывамі, аплаціць інструктарам іншых калектываў патрэбныя кансультацыі, плаціць за транспарт на канцэрты ці харчаванне ў іх ходзе.

Ян Сычэўскі:

— Прымаючы пад увагу перапіс, тут таксама наглядаецца вялікія дыспрапорцыі (справа, галоўным чынам, у задавальненні патрэб атрымальнікаў беларускай культуры — М. Х.). Гэта вельмі несправядліва. Калі меншасці былі пад апекай Міністэрства культуры, для ўсіх іх у найлепшы час у дзяржаўным бюджэце было адведзена 5,9 млн. злотых. Зараз ёсць больш 15,5 млн. зл., але мы атрымліваем менш, чым тады. Адкідваецца цэлы шэраг нашых вельмі важных праектаў. Гэта дзіўная палітыка, далёкая ад справядлівасці і дэмакратыі. Голас прадстаўнікоў меншаснага боку на Сумеснай камісіі ў гэтых адносінах з'яўляецца фікцыяй, наогул не прымаецца пад увагу, калі гаворка ідзе пра эфектыўнасць гэтага голасу.

Андрэй Артэмюк:

— У нас пад апекай сем калектываў.

Далей у размове з «Нівай» старшыня СУП згадвае пра пяць цыклічных мерапрыемстваў лакальнага характару, арганізаваных Саюзам і — як агульна называе — «pomniejszych», якія будуць фінансавацца з таямніча запісаных 147 тысяч 870 злотых. Сярод мерапрыемстваў БГКТ, якія мае падтрымаць Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, апынуліся Прэзентацыі абрадавых калектываў (24 тыс. зл.), конкурс «Пявучыя сем'і» (10 тыс. зл.), «Купалле» (25 тыс. зл.), беларускія фэсты ў дзесяці мясцовасцях (60 тыс. зл. — столькі ж), Свята беларускай культуры (25 тыс. зл.). На арганізацыю сёлетняга Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня» міністэрства прызначыць 141 тысячу злотых. Таксама 60-гадовы юбілей БГКТ будзе падтрыманы сумай 17 тысяч злотых. Субсідыю атрымаюць мерапрыемствы Таварыства беларускай культуры, сярод іншага, Дэкламатарскі конкурс «Роднае слова» (23 тыс. зл.), конкурс «Сцэнічнае слова» (8 тыс. зл.), конкурс школьных тэатральных калектываў (14 тыс. зл.), конкурс «Беларуская песня» для дзяцей і моладзі (22 тыс. зл.).

## Іншыя праекты

Што тычыцца іншых мерапрыемстваў астатніх беларускіх арганізацый, якія сёлета пакарыстаюцца міністэрскай падтрымкай, то Згуртаванню «Музей і асяродак беларускай культуры» ў Гайнаўцы на «Пагоню з культурай і мастацтвам» выдзелена 64 тыс. злотых. Акрамя таго, некалькі іншых праектаў гэтай арганізацыі атрымае грошы з МУСіА на гэты год, а таксама на мадэрнізацыю пастаянных музейных выстаў (40 тыс. зл.). Беларускае гістарычнае таварыства на два нумары выдання «Białoruskie Zeszyty Historyczne / Беларускі гістарычны зборнік» мае 32 тыс. зл., і апублікаванне кнігі «Гісторыя беларусаў Падляшша» — 75,5 тыс. зл. Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» на публікацыю чарговага літаратурна-мастацка-беларусазнаўчага штогодніка «Тэрмапілы» — 12,5 тыс. злотых. Сярод мерапрыемстваў Аб'яднання на карысць дзяцей і моладзі, вывучаючых беларускую мову «АБ-БА» найбольшую падтрымку атрымала пагадавое метадычнае выданне для настаўнікаў беларускай мовы «Беларускі настаўнік» (24 тыс. зл.), найменшую — летняя этнаграфічная майстар-класы «Я нарадзіўся тут» (15 тыс. зл.). Фонду Тэатр «Чрэво», напрыклад, удалося атрымаць сродкі для трэцяга выпуску фестывалю «Одэ» (16 тыс. зл.) і пастаноўку шэрагу спектакляў на дыялекце беларускай мовы (8,3 тыс. зл.). Згуртаванню «Музей малой

працяг ☞ 11





# З ног на галаву

Думаю, што кожны хто піша, мусіць хоць адзін матэрыял прысвяціць тэме навагодніх падзей у Кёльне. Там дайшло да таго, што многія мясцовыя пісакі не толькі запозна асмеліліся хоць што-небудзь агучыць на гэтую тэму ў сваіх свабодных СМІ, але і паспяшаліся зарана закрыць яе.

Хіба іх уладальнікі баяцца паўтарыць лёс французскага штотыднёвіка «Charlie Hebdo», або ім проста няма чаго сказаць пасля доўгагадовага праслаўлення мультыкультуралізму, сэнсу якога так ніхто і не змог растлумачыць — як мінімум мігрантам.

Я ўжо не кажу пра паліцыю ў еўрапейскіх краінах, якой проста затыкаюць рот і забараняюць нават узгадваць нацыянальную прыналежнасць злачынцаў, калі злачынцы, канешне, не карэнныя еўрапейцы. Карэнных еўрапейцаў бэсціць можна.

Таму кожны чалавек пісання, які бачыць непрыкрыты перакос у такім стаўленні да падачы інфармацыі, абавязкова мусіць выказаць свае меркаванні не толькі наконт таго, што здарылася ў шэрагу еўрапейскіх гарадоў у навагоднюю ноч, але і наконт свайго бачання як будучыні Еўропы, так і ўсёй еўрапейскай цывілізацыі ў цэлым. Гэта прамы абавязак і маральна-этычны патрабаванні прафесіі журналіста. Падзеі ў Кёльне гэта не толькі апошняе папярэджанне еўрапейскай цывілізацыі, але і праверка, ці ёсць яна яшчэ ўвогуле, тая цывілізацыя.

І справа зусім не ў тым, што пэўная колькасць мігрантаў, якіх тры месяцы таму жыхары Кёльна сустракалі з падарункамі, ператварылі іх навагоднюю ноч у ноч жахаў. Гэта, акурат, было неадпойчы прадказана цэлым шэрагам аналітыкаў, палітыкаў, ды і саміх мігрантаў, многія з якіх і не збіраюцца хаваць сваёй нянавісці ні да еўрапейцаў, ні да еўрапейскай культуры. Гаворка пра стаўленне да гэтай праблемы саміх еўрапейцаў.

Каго сёння і чаму масава запрашаюць прыязджаць у Еўропу некаторыя еўрапейскія палітыкі? Прыхільнікі міграцыі кажуць, што ўцекачоў ад вайны. Дык што, ад вайны трэба ўцякаць усім? А хто ваяваць з агрэсарам будзе? Што, як Гітлер напаў на Францыю ці на Польшчу, то ўсім палякам і французам трэба было ўцячы са сваёй радзімы ў іншую краіну?

Але тады яны былі б дэзерцірамі. І іх, як дэзерціраў, расстралялі б. Я ўжо не кажу пра тое, што агрэсар перамог бы і зараз у Еўропе панаваў бы фашызм. Фашыстаў спынілі не тыя, хто ўцякаў, а тыя, хто змагаўся. Чаму нехта лічыць, што сёння можа быць па-іншаму?

Чаму як вораг нападзе на Нямеччыну, то гэтыя ж палітыкі прызавуць немцаў у войска, каб тыя іх баранілі? А хто будзе ўцякаць, таго арыштуюць як дэзерціра. Дык чаму да сённяшніх мігрантаў іншы падыход?

Ну хай сабе ўцякалі б ад вайны старыя, жанчыны і дзеці. Але ж мы бачым як прыязджаюць і маладыя мужчыны прызыўнога ўзросту. Менавіта яны мусяць бараніць сваю краіну ад агрэсара. Але яны цынічна пакідаюць гінуць сваіх суайчыннікаў, якія не маюць дзесяць тысяч еўра заплаціць кантрабандыстам за дастаўку ў Еўропу. І чым больш Еўропа прыме ўцекачоў ад вайны, ці дэзерціраў, называйце як каму падабаецца, тым больш там, на кінутай імі радзіме, загіне пакінутых без абароны людзей. Там кожны дзень караюць нялюдскім спосабам мноства ахвяр, якіх няма каму бараніць, бо тых, хто павінен бараніць сваіх суайчыннікаў, Еўропа прымае як уцекачоў.

Гэта такі сёння еўрапейскі гуманізм? Гэта так сёння называецца справядлівасць? Дапамагаць самым хітрым і подлым, кінуўшым у бядзе людзей з пачуцём абавязку і патрыятызму, сумленне і гонар якіх не дазваляюць кінуць у бядзе сваю краіну?

Ці можа хто думае, што супраціўнікам бескантрольнай міграцыі не шкода людзей, якія патрапілі ў бяду? Думаю, што шкода значна больш, чым іх апанентам. Толькі яны шукаюць рэальных шляхоў найбольш эфектыўнай дапамогі, а не прыкідваюцца добранькімі дзеля палітычнага капіталу. Сапраўдны клопат гэта дапамагчы патрыётам перамагчы агрэсара і ўсталяваць парадак, а не вывозіць адтуль патэнцыйных абаронцаў.

Ну а калі Еўропа прымае сёння не самых адданых маральна-этычным прынцыпам прадстаўнікоў тых краін, дзе ідзе вайна (бо самыя адданыя застаюцца змагацца за сваю радзіму і гінуць за яе), то якіх яна чакае ад гэтых мігрантаў учынкаў ужо на сваёй тэрыторыі?

**Віктар САЗОНАЎ**

# Слоў (ня)шкода



І хто б мог падумаць, што Беларусь пад аўтарытарнай уладай Аляксандра Лукашэнкі можа стаць мадэллю дэмакратычнай ілюзорнасці для... дэмакратычнай (ці яна яшчэ ёсць такой) Польшчы?

Відавочнай відавочнасцю ці самай сапраўднай праўдай з'яўляецца тое, што з моманту, калі ціха-цёмна ўладу ўзяў над польскай дзяржавай Яраслаў Качынскі, дэмакратычныя стандарты ў абедзвюх краінах вельмі зраўняліся. На жаль, на ўзроўні ілюзорнасці. У Польшчы дэмакратычныя стандарты ўжо дасягнулі дна. У адрозненне ад гэтага, у Беларусі, яны хоць ледзьледзь, але ад таго дна адбіваюцца — прынамсі, у сферы жаданага. І такі характар мае выказванне беларускага прэзідэнта на апошнім святкаванні праваслаўнага Раства: «Мы будзем жыць у зусім дэмакратычным грамадстве права, падобна як і да гэтага часу, нават калі нас будуць невядома як крытыкаваць». Трэба прызнаць, што ягоныя словы ўтрымліваюць вялікую нагрузку палітычнай рашучасці. Невядома толькі, ці неабходнай яму для таго, каб паслядоўна перакоўваць іх у рэальнасць, ці больш для таго, каб іх... публічна фармуляваць.

Аналагічнай рашучасці хапае таксама польскаму прэзідэнту, які ў вельмі частых паведамленнях заяўляе аб сваёй прыхільнасці прынцыпам дэмакратыі. У той жа час шалёна махае пяром, падпісваючы з дня на дзень антыдэмакратычныя законы з адвагай роўнай той, якую паказвае прэзідэнт Лукашэнка, ільгучы публічна, што «дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі не менш, чым у іншых». Вось што!

Польская дэмакратыя мае трохі больш гадоў, чым аўтарытарызм Лукашэнкі. Наколькі канстытуцыйныя падставы ў абедзвюх краінах былі стабільнымі, паказалі мінулыя месяцы. Дэмакратыя ў Польшчы сёння ў поўнай руіне. А беларускі варыянт аўтакратычнага дэмакратызму па-ранейшаму маецца добра. Больш за тое, ён усё смялей прыбіраецца ў пер'е сапраўднай дэмакратыі. Між тым Польшча дала сябе з дэмакратычнага апярэння абскубацца да голага падхвосця. Прытым на працягу некалькіх месяцаў. Дваццаць з лішнім гадоў будавання дэмакратыі ў Польшчы перад усяго толькі некалькімі месяцамі яе лёгкай разборкі, гэта выклікае маю грамадзянскую трывогу — здаецца, самую вялікую, з якой прыйшлося мне сустрэцца на працягу ўсяго майго жыцця. Прыйдзе час, калі палякі вельмі засаромяцца. Але і беларусы не будуць смяяцца, калі, нарэшце, убачаць рэальнае адзенне, у якое строіцца іх прэзідэнт Лукашэнка.

Пакуль што, у Польшчы і Беларусі, але і ў Расіі можна ўбачыць нацыянальнае ўзмацненне. Ці, калі хто хоча, інтэнсіфікацыю слушнай улады перад няслушна адданым ёй народам. Так 2016 год мае быць у Беларусі часам прывівання грамадзянам Беларусі любові да сваёй радзімы, што прыпячатвае чарговы ўказ Аляксандра Лукашэнкі. Прэзідэнт даў яго — як тлумачаць (трапна названыя) ягоныя службы... прэсавыя, «для таго, каб аб'яднаць інтэлектуальныя і духоўныя сілы грамадства для праводзення задач сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, захавання гістарычнай і культурнай спадчыны, развіцця народных традыцый, выхавання грамадзян у любові да радзімы, а таксама падтрымання творчых ініцыятыў». Уффф! (зноска мая). А спецыяльную ўвагу дэкрэт накіроўвае на мерапрыемствы ў галіне мастацтва, падкрэсліўшы, што гэта «адзін з найважнейшых сродкаў выхавання моладзі ў патрыятызме і павазе да Айчыны». Уф, уф, уф (гэта таксама мая заўвага)! У тым жа ключы застаецца і ПіСаўскі патрыятычна-нацыянальны аповед. Цікава, што паралельна такі ж аповед, хоць і з трохі іншых стратэгічна-палітычных вектараў, павялічваецца ў Расіі. Нядаўна абвешчаная расійскім урадам дзяржаўная праграма патрыятычнага выхавання на 2016-2020 гады мае на мэце стварэнне ўмоў для «ўмацавання грамадскай згуртаванасці ў кантэксце выклікаў устойлівага развою і пагроз бяспекі дзяржавы». Ужо раней у Расіі стандартызавалі гістарычную палітыку. Няма ў ёй месца для метадалагічных сумневаў ці хаця б вальнадумнай даследчай крытыкі. З тых часоў Расія мае афіцыйна ўзгодненую, бездакорную гісторыю сваёй уласнай велічы. Такой бездакорнай велічы патрабуе таксама новая гістарычная палітыка ПіС. А і Беларусь прэзідэнта Лукашэнкі не забываецца пра сваю сціплую веліч. Неўзабаве і ўсе славянскія «суседзі» ухопяцца за чубы, хто з іх вялікшы. Таму чым больш рыторыкі, тым менш зместу. І чым менш зместу, тым больш псеўдапатрыятычнай агрэсіі. Праўда, законам дэмакратыі з'яўляецца свабода слова. Але пры адной умове, што бярэш за яго поўную адказнасць.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Культура з выключэннем?

Беластоцкія ўлады пачынаюць серыю сустрэч з мэтай распрацоўкі культурнай палітыкі горада. Удзельнікамі сустрэч будуць — пералічваю так, як гэта зрабілі беластоцкія ўлады — культурныя ўстановы, удзельнікі культурнага жыцця, няўрадавыя арганізацыі, творцы, вышэйшыя мастацкія школы. У праграме-дакуменце маюць прымацца пад увагу найбольш важныя патрэбы (пашырэнне культурных прапаноў у горадзе, пашырэнне культурнай адукацыі, вызначэнне магчымасцей і напрамкаў развіцця мясцовых культурных устаноў, прасоўванне праектаў, творцаў і аніматараў). Як падкрэсліваюць прэзідэнт Тадэвуш Трукаляскі і яго намеснік адказны непасрэдна за культуру Рафал Рудніцкі, уладары горада хочуць «вызначыць дыферэнцыятар у выглядзе культурнай візіткі горада і яго характару». Дакумент мае быць дзейсны да 2020 года.

— Падрыхтаваны на 2016 год каляндар культурных мерапрыемстваў паказвае, што мы зацікаўлены тым, каб культурныя мерапрыемствы будавалі тоеснасць беластачан, каб нагадвалі ім пра мінулае нашага горада, яго шматкультурнасць, шматканфесійнасць, — сказаў прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі.

У гэтым кантэксце, між іншым, нядаўна выказаўся ён пра беластоцкую культурную прапанову на 2016 г., якая павінна ахопліваць такія падзеі, як (пералічваю за ім): 25-годдзе візіту Папы Рымскага Яна Паўла ІІ у Беласток, 1050-годдзе Хрышчэння Польшчы ці 70-я гадавіна смерці Дануты Седзікуўны «Інкі» медсястры 4-га эскадрона адноўленай на Беласточчыне Віленскай брыгады АК, якая была прысуджана да смерці камуністычным правасуддзем і расстраляна ў Гданьску ў 1946 годзе ў 18-гадовым узросце.

— Мы асабліва зацікаўлены тым, каб абвешчаны Гарадской радай Беластока Год «Інкі» дайшоў не толькі да тых, хто зацікаўлены гісторыяй, але і да маладых, для якіх Данута Седзікуўна можа быць узорам патрыятычнага стаўлення, — запэўнівае намеснік прэзідэнта Рафал Рудніцкі.

Гарадскім уладам залежыць на тым, каб падкрэсліць ролю літаратуры, кіно ці музыкі, каб адбывалася гэта ў супрацоўніцтве з няўрадавымі арганізацыямі. Нагодай для гэтага будзе 25-годдзе Літаратурнай прэміі Прэзідэнта Беластока. Прэлюдыяй будзе дэбата ў Варшаве, у Фактычным доме культуры: «Не толькі Нобелеўская прэмія. Ці існуе літаратурнае жыццё на ўсход ад Варшавы?». Якую ў гэтым маштабе ролю адыгралі б няўрадавыя арганізацыі, бліжэй невядома. У нядаўна пачатым годзе прадбачваюцца вялікія мерапрыемствы на адкрытым паветры, арганізаваныя з думкай пра шырокае кола беластачан. Як лічаць прэзідэнты Трускаляскі і Рудніцкі, сярод самых важных культурных праектаў гэтага года — апрача праектаў цыклічных і тых, якія ажыццяўляюць няўрадавыя арганізацыі пры фінансавай падтрымцы горада — апынуліся новыя праекты: вялікі тэст ведаў пра гісторыю Беластока, цыкл семінараў, лекцый і сустрэч, прысвечаных 1050-гадоваму юбілею Хрышчэння Польшчы, 75-годдзю спалення Вялікай сінагогі (канцэрт Караліны Ціхай), Сусветныя дні моладзі, мерапрыемствы, прымеркаваныя да святкавання 70-й гадавіны з дня смерці Дануты Седзікуўны «Інкі», Джазавы фестываль, мерапрыемствы, звязаныя са святкаваннем 25-й гадавіны візіту Папы Рымскага Яна Паўла ІІ у Беласток, выстава работ Міраслава Балкі і Катажыны Краковяк.

Абмяркоўваючы сёлетнія беластоцкія культурныя планы і прадстаўляючы ідэю, каб стварыць дакумент аб культурнай палітыцы горада, ані словам не ўспомнілі спадары Трускаляскі і Рудніцкі аб удзеле ў іх у якой-небудзь ролі беларускай, праваслаўнай грамады. Больш таго, згаданую прэс-канферэнцыю сарганізавалі яны ў першы дзень Раждаства, святкаванага ў Беластоку велізарнай доляй насельніцтва па юліянскім календары, у тым ліку меншасцямі беларускімі і праваслаўнымі СМІ. Чаму ў гэты дзень? У сувязі з распрацоўваным дакументам аб культурнай палітыцы горада ўзнікае пытанне: ці справа не ў выключэнні гэтых меншасцей? Падобныя пытанні прагучалі ў некаторых сацыяльных сетках. Адна з агляддальнікаў інтэрнэтных СМІ прыйшла да высновы, з якой я цалкам згодны: «Відавочна, што ў гэтым выпадку крыху не хапіла думкі. А думка павінна быць, таму што Беласток не з учарашняга дня населены ў значнай частцы праваслаўнымі жыхарамі. Прытым падчас прэс-канферэнцыі раздавалі календары з памечанымі святамі праваслаўных вернікаў. Таму можа чыноўнікі, у тым ліку прэзідэнты, павінны спачатку азнаёміцца са зместам календароў».

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Рэдакцыя «НІВЫ» цягам 2016 года будзе прыгадваць нашым чытачам рэпарцёрскія матэрыялы нашых журналістаў, якія пісалі пра трагічныя пасляваенныя падзеі з жыцця беларусаў Падляшша. Большасць з іх публікавалася ў кнізе «Час трывогі і надзеі. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў пасляваенны перыяд (1944-1956)», выдадзенай нашай рэдакцыяй у 2007 годзе.**




# ЗАНІ. ПОПЕЛ І ПАМЯЦЬ

*Зані, 2 лютага 1946 г.*

* * *

Памяць ведае больш, чым слова можа сказаць. Памяць ведае больш, чым слова хоча сказаць. Памяць, не слова, хоча сказаць усё і не можа.

Тое, што ў словах.

**Успаміпае М. К.:** Гэта было ў суботу, якраз выпалі польскія Грамніцы. У нас у хаце была я з сястрою, мама, малодшы брат Ёзік, тата драмалі на зэдліку каля печкі. На вячоркі прыйшлі дзве мае сяброўкі, адна прала на калаўротку, другая вязала на прутках. Старшы брат Уладзік забег у хату і кажа, што паляць Шпакі. Відаць зарыва і дым. І выбег. Мама кажуць, што трэба павыносіць з хаты, бо прыйдуць і нас спаляць. Потым хтось грукнуў у дзверы, тата выйшлі і ў хату ўжо не вярнуліся. Потым стрэлілі ў акно, і згасла карбідоўка. Мы пападалі на падлогу. Я падняла галаву і бачу цераз акно, што і наша вёска ўжо гарыць. Ідзі на гару і павынось што, кажа мне мама. Я пайшла і бачу з гарышча, што людзі пабітыя на вуліцы ляжаць. Бо на вуліцы ясна, як удзень, ад агню. Зыходжу і кажу маме. Мама ўзялі польскую ікону, была ў нас адна, і выйшлі на двор. Мы ўсе за ёю. Брат, я памятаю, паспеў захапіць з сабою школьны тарністар. Мы хадзілі ў школу ў Занях, вучыў нас найстарэйшы наш брат Янак, яго ў той час дома не было, бо старэйшыя хлопцы і мужчыны здаўна ўжо па хатах не начавалі. Хто дзе, у клуні, на вышках у хляве або і на грушы, абвязаўшыся вяроўкаю, каб не ўпасці, калі засне. Стаімо мы перад нашым домам, а яны ідуць вуліцай і заходзяць у наш панадворак. Адзін з іх узяў і прыставіў пісталет мне да галавы. „Polacy czy Białorusy?" — пытаецца. „Panie, my Polacy, nie zabijajcie nas", — кажуць мама. — „Jak pan nie wierzy, to niech zapyta u sąsiadki. Ona katoliczka". Цераз вуліцу жылі католікі, нашы суседзі. Мама пабачылі, што суседка ...цкая стаіць перад домам, і падумала, што за нас заступіцца. Бо мы з імі жылі як адна сям'я, гэта я тут праўду, як на споведзі, кажу. Яны былі бедныя, а нашы мама былі шчырыя, спагадлівыя і памагалі ім, чым маглі. Адзін пайшоў пытацца, ці палякі мы. І тая ...цкая сказала, ведаеце, з такой пагардай ці то са злосцю: „Tak, tak, Polaki". Ён вярнуўся і стрэліў з пісталета маме ў голаў. Я бачыла, як страшна пырснула кроў у мамы з галавы. Мама ўпалі каля хаты. Брат Ёзік кінуўся ўцякаць за хату, за ім стралялі, але не пацэлілі. Ён прасядзеў усю ноч у акопах за вёскай, вярнуўся на другі дзень, ужо на папялішча. А нас з сястрою і з тымі сяброўкамі запхнулі ў хату. Адзін з іх прынёс ад суседзяў акалот саломы, яны ім уваход у пограб закрывалі, бо дзвярэй не мелі, завалок яго на гару і запаліў. І потым пайшлі паліць далей. Мы думалі, што дзверы завязалі чым, каб нам не выйсці, і пазалазілі пад ложак. Але тут дым, кроквы трашчаць і пачынаюць падаць. Я вырвала акно, у нас яно было падвойнае, як на зіму, другую раму выпхнула на двор. Пад акном у нас была сажалка, тут на яе салома са страхі падае і гарыць.

Вада гарыць. Хоць быў люты, то вада не замёрзла, бо тады якраз стаяла адліга. Няма як выскачыць, бо ўсюды агонь. Але вытрываць немагчыма, мы ўжо пачыналі задыхацца. Тады я ўзяла сястру на рукі, ёй было сем гадоў, а мне чатырнаццаць, і кінулася цераз полымя, цераз сенцы на двор. Дзверы не былі завязаны. За мною мае сяброўкі. Я пабегла цераз вуліцу да тых суседзяў і, не пытаючыся, шмыганула ў іхнюю хату і схавалася там. Там, дзе жылі палякі, то не палілі, толькі беларусаў. А таксама абапал дамоў не палілі, нават калі былі беларускія, каб католікі не згарэлі. У нас у вёсцы было чатыры польскія сям'і, са „шляхты". І тая суседка, што сказала на нас „Tak, tak, Polaki", забегла ў хату і выгнала нас адтуль, як паршывых сабак. Я з сястрою на руках пабегла ў куток панадворка, там у іх хвораст ці то ядловец ляжаў і таксама пярыны, што павыносілі з хаты, бо сказалі раней, што паліць беларусаў будуць, каб павыносілі, калі б ад пажару і іхняя хата занялася. Але і адтуль нас прагналі. І мы схаваліся ў куратнік, што стаяў побач сядзібы тых суседзяў. Там мы і прабылі да рання, не выходзілі, калі яны збіраліся і крычалі „Zbiórka! Zbiórka!", а потым пайшлі дарогаю на Свірыды.

**Успамінае Н. А. (сястра М. К.):** Я ляжала ў тым куратніку на курыным памёце ў адной кашулі. Сястра мне казала не варушыцца. Сама была ля дзвярэй. Я чула, як яна дрыжыць і трасецца. У вёсцы стралялі, і цераз пазы бачыла, што на загуменні стаялі іхнія падводы, чакалі, аж тыя ў вёсцы паб'юць людзей і папаляць. Яны збіраліся потым вельмі доўга. Уранні сястра знайшла брата Янку, і ён перанёс мяне ў клуню, якая не згарэла. Сама я ісці ўжо не магла. Тата адвёз мяне ў Свірыды да сваякоў. Вясною я вярнулася ў Зані да бабкі. Зані пасля пажару апусцелі, людзі хаваліся па іншых вёсках, доўга не вярталіся. Тата, як вярнуліся ў нядзелю ранкам, то ўбачылі, што мама згарэлі разам з хатаю, засталіся толькі самыя костачкі. Тата пазбіралі іх у палатно, збілі з дошак труну і хавалі разам з іншымі пабітымі, за вёскаю, у супольнай магіле, мы туды пойдзем, я вам пакажу. Праваслаўныя могілкі былі ў Браньску, але людзі баяліся туды ехаць і хаваць, каб там нас не пабілі. Разам у той магіле пахавалі 24 асобы. Тыя нашы сяброўкі выжылі, яны былі сёстры, але тата і маму іх забілі.

**Успамінае А. К.:** Яны прыходзілі да нас раней, перад тым, як нас спалілі, былі разоў дваццаць. Грабілі, забіралі коней, свіней, вопратку, хлеб, усё, што згледзелі. Прыходзілі ноччу, грукалі ў акно. Калі гаспадар пытаўся „Хто?", яны казалі „Polskie Wojsko". Мы ўжо ведалі, хто такі і чаго ім трэба. Тады мне было 19 гадоў, я быў на вёсцы, сядзеў з хлопцамі ў некага ў хаце. Па начах мы ў хатах не спалі, бо калі каго з хлопцаў зловяць, то катуюць. Мы пачулі шоргат і рыпенне падводаў. Я выйшаў на двор і бачу, што вёску акружаюць. Пытаю хлопцаў, куды ўцякаць будзем? Усе разбегліся, хто куды. Я сам пабег цераз садок у той бок, дзе лес. Але згубіў шапку і вярнуўся па яе. Тут мяне і схапілі. І вядуць па вуліцы. З адной хаты выглянуў стары, называўся ён Міхал. Яго таксама забралі і павялі са мною. Завялі нас на гасцінец, што ідзе на Свірыды, і там сказалі класціся на зямлю. Потым адзін з іх пайшоў на вёску і доўга не вяртаўся. Мусіць, пытаўся ў камандзіраў, што з намі рабіць. У вёсцы чуваць была страляніна, з абодвух канцоў пачалі яе паліць. Потым той паляк, што пайшоў, вяртаецца, выцягвае пісталет і пытаецца ў Міхала: „Polak czy Białorus?" — „Białorus", — кажа дзядзька Міхал. Той стрэліў у яго два разы. Потым пытаецца пра тое самае ў мяне. Я адказваю так сама. Ён страляе ў мяне. У першую хвіліну мне падалося, што мне раскалолі галаву і выбілі мозг. Але ж не, я ляжу і думаю, значыць, я жыву і галава цэлая. Чую, як енчыць і страшна хрыпіць дзядзька Міхал. Яму, мусіць, прастрэлілі лёгкія, краем вока бачу, як ён пакутуе і звіваецца каля мяне. „Popraw temu, co się tak wije", — кажа той, што страляў. І тады другі пусціў у дзядзьку чаргу з аўтамата. Дабіў яго. Я ляжаў да таго часу, пакуль не ўбачыў, што яны адышлі ад нас і сталі глядзець, як гарыць вёска. Я паволі адпоўз ад іх, потым прыўзняўся і кінуўся бегчы. Тады якраз пачалася моцная страляніна, я не ведаю, стралялі па мне ці, можа, у вёсцы людзей забівалі. Я ўцякаў. Я схаваўся ў акопах, што засталіся пасля немцаў, сядзеў там і прамёрз. Адчуваў, як па маім целе, пад вопраткай, сцякае кроў. Трэба было падацца недзе да людзей.

Але куды пайсці? Кругом польскія вёскі. Я пайшоў у Сцёны, там былі дзве беларускія сям'і. Я пастукаў у акно, мне адчыніла бабулька. Сказаў, што я з Занёў, і што нас спалілі і пабілі. Прыйшоў гаспадар, у хаце лямпы не палілі, але ён адчуў, што нешта са мною благое. Ён стаў мяне разглядаць і ўбачыў, што з мяне цячэ кроў. Я быў ранены ў двух месцах. Адна куля прайшла праз шыю, другая трапіла ў плячо і выйшла каля локця. Ён мяне перавязаў, а ранкам павёз у Зані. На вуліцы я ўбачыў забітага бацьку. Зайшоў у хату, на пасцелі ляжала мая сястра, ёй прастрэлілі грудзі. І той чалавек занёс сястру на сваю фурманку і павёз яе цераз Браньск у Бельск, у шпіталь. Там яе адратавалі. У Занях у тую ноч забілі 24 асобы. Многа паранілі. Наш сусед выносіў з хаты свайго ўнучка, да яго стралялі з аўтамата, хлопчыку было ўсяго чатыры гады, а можа і таго не, кулі яго разнеслі амаль на кавалкі, а суседу адстрэлілі абедзве рукі. Яны потым выехалі ў СССР, засталася яго дачка, жыве ў Занях да гэтай пары.

***Я:*** *За што стралялі людзей у Занях і палілі вёску? Можа хтось з Занёў нейкага паляка забіў або выдаў бяспецы? І потым тыя з лесу прыйшлі помсціць?*

**А. К.:** Ніхто з нас нікога не выдаваў і не забіваў. Стралялі і мучылі нас за тое, што мы беларусы, што рэлігія ў нас іншая. Вам, смярдзючым беларусам, месца там, пад Масквой, а не тут, казалі яны не раз.

Вам трэба ведаць, якія ў нас тут, „на шляхце", як людзі кажуць, палякі жывуць. Ім ксяндзы ў касцёлах казалі, што руская рэлігія Маткі Боскай не прызнае, і яны гэтаму верылі і вераць да сёння.

**Успамінае П. М.:** Заходзіць дзядзька ў нашу хату і кажа, што вёска гарыць. Я на двор, а на загуменні стаяць з карабінамі. Назад у хату! Сядзець і не выходзіць. Я ўзяў дзве мае дачкі на рукі, выйшаў з імі на двор і цераз вуліцу, подбегам, каб хутчэй у лес. За мною стралялі, куля трапіла мне ў клуб, я ўпаў з дочкамі ў баразёнку на агародзе. Аднекуль падбегла мая сястра, забрала дзяўчынкі і панесла іх за вёску. Я бачу, ляжаць мая мама на агародзе, забітая. Я падпоўз да яе, кранаю, але яна не варушыцца. Я ляжаў каля мамы не ведаю як доўга, аж чую, крычаць: „Zbiórka! Zbiórka!" Вёска палыхае, яны ідуць вуліцай, згледзелі нас, падыходзіць адзін, падыходзіць другі: „Kurwa mać, nie ma naboi!" Потым падыходзіць трэці з карабінам, такі каратыш, ростам можа з метр, калі ў шапцы. Ён страляе ў маму, ужо мёртвую. Потым стрэліў у мяне. І я тады, як ляжаў, то сеў адразу. Сеў, не ведаю, што са мною сталася. Ужо нічога не бачыў. Куля выбіла мне адно вока, прайшла пераноссе і выкалупнула другое. Яно, як людзі мне потым сказалі, ліпела нейкі час на адной жылцы. Яны пайшлі далей, а я астаўся сядзець там без вачэй, жывы. І ў таго каратыша не хапіла на мяне амуніцыі.

Магіла пастраляных 2 лютага 1946 года людзей у Занях метраў дзвесце за вёскай, у полі. На пачатку сямідзесятых на тым месцы паставілі мемарыяльную табліцу. Высечаны на ёй 24 прозвішчы. Найстарэйшаму з забітых 83 гады, наймалодшаму — 4. Гэта тое хлапчанё, якое ратаваў і выносіў з полымя дзед, пакуль не адстрэлілі яму рук.

Зані спаліў адзін з атрадаў так званага Pogotowia Akcji Specjalnej (PAS), якім камандаваў „Буры" (Рамуальд Райс). Атрад складаўся з акаўцаў, што прыйшлі на Беласточчыну з Віленшчыны, і таксама з мясцовых палякаў.

— Вы, калі ласка, не запісвайце нашых прозвішчаў у газеце, — прасілі мяне жыхары Занёў. — Мы вам расказалі ўсё, як было. Але прозвішчаў нашых не запісвайце. Жывуць нашы дзеці, нам трэба жыць. Зразумейце тое, што нас стралялі не партызаны з-за граніцы, а нашы суседзі, людзі з навакольных вёсак. Мы не хочам, каб тыя, што стралялі нас тады, помсцілі нам і цяпер. Калісьці называлі іх бандытамі, цяпер гавораць, што яны героі, бо змагаліся за вольную Польшчу.

Я запісаў гэтыя словы 17 красавіка 1990 года ў Занях, на беларускім астраўку ў Польскай Рэчы Паспалітай.

Я не адчуваю нянавісці да палякаў.

**Ян МАКСІМЮК**
**„Ніва", 6.05.1990**

# Трэба было напісаць

Яшчэ адзін дапаможнік для вывучэння родных традыцый — кніжка аўтарства Аліцыі Станько „Трэба напісаць...", былой бібліятэкаркі з Ласінкі, днямі мела сваю прамоцыю. Зборнік змяшчае ў сабе каля трыццаці сцэнак, якія ставяцца школьнымі тэатральнымі калектывамі. Кніга напісаная на пяці мовах — апрача беларускай і яе мясцовых дыялектаў можна тут знайсці дыялогі да пастановак на польскай ды ўкраінскай мовах.

На прамоцыі кніжкі, якая прайшла ў мясцовай святліцы ў Ласінцы, сабралася амаль цэлая вёска ды госці з Гміннай управы ў Нарве. Усім было цікава пачуць родныя „гавэнды". А нагода была не абы-якая, таму што тэатральныя групы школьнікаў з Нарвы прадставілі некаторыя сцэнкі аўтарства Аліцыі Станько. На гэтай адмысловай сустрэчы з'явіліся нават тыя дзяўчаты, якія ў дзевяностых гадах гулялі ў школьны тэатр у ласінскай школе. Якраз дзякуючы сцэнарыям любімай бібліятэкаркі ласінская моладзь расслаўляла гісторыю і мову сваёй ваколіцы на ўсю Беласточчыну.



Аліцыя Станько

— Калі я працавала ў бібліятэцы, часта дзеткі прыходзілі і прасілі мяне падрыхтаваць ім сцэнкі на конкурс тэатральных форм у Кляшчэлях, ці на „Беларускую гавэнду" ў Гайнаўцы, — кажа аўтарка кніжкі Аліцыя Станько.—Я ведала характар і тэмперамент дзетак. У бібліятэцы не было кніжак ці тэкстаў, якія адпавядалі б патрабаванням такіх конкурсаў. Трэба было нешта стварыць сваё.



І сапраўды тэксты аўтарства Аліцыі Станько гэта жывыя аповеды людзей. Дзякуючы спісаным размовам, моладзь ці наогул жыхары могуць пазнаць мясцовы дыялект, а таксама даведацца больш пра сябе, пра свае былі. Аліцыя Станько адкрывае перад намі частку падляшскай рэчаіснасці, якая многа гаворыць пра менталітэт ды рысы характару жыхароў гэтага куточка Беласточчыны. Сапраўдным багаццем гэтага выдання з'яўляецца мова — мясцовы дыялект. Невыпадкова карэктуру кніжкі рабіла, між іншым, Ганна Кандрацюк-Свярубская, дарэчы родам з суседняй ад Ласінкі Катлоўкі, якая сама карпатліва клапоціцца за захаванне і аўтэнтычнасць напісанага.

— Хаця кніжка выдадзена на пяці мовах, усе тэксты проста або непасрэдна датычаць Ласінкі — яе грамадскасці,

працяг ☞ 5



■ Вучні выступілі з абрадам «Калядныкі» і праспявалі калядкі



■ Протаіерэй Лявонцій Анхім, бацькі і выпускнікі школы

# Куцця ў Арэшкаве

**У Непублічнай падставовай школе ў Арэшкаве вучні, настаўнікі і бацькі штогод арганізуюць куццю, у час якой дзеткі прэзентуюць калядныя прадстаўленні, спяваюць калядкі, дэкламуюць адпаведныя акалічнасці вершы. Сёлета ў прыгожа аздобленай спартыўнай зале школы ўся сустрэча прайшла ва ўзнёслым святочным настроі.**

5 студзеня ў школе сабраліся бацькі, якія загадзя падрыхтавалі посныя стравы і накрылі стол, школьнікі, некаторыя выпускнікі і настаўнікі. Дзень раней вучні і іх педагогі ўпрыгожылі спартыўную залу, у якой красавалася вялікая ёлка з анёламі, ланцужкамі і звёздачкамі. У цэнтральным месцы спартзалы на пакрывале ў чатыры нічаніцы вісела ікона Збавіцеля, а побач — вышываныя ручнікі. Прыгадаю, што ўзоры даўняга рукадзелля (пакрывалы, вышываныя ручнікі, абрусы, саматканая вопратка, хатняя і гаспадарскія прылады працы) захоўваюцца тут у школьнай хатцы. Пасля афіцыйнага выступлення дырэктар школы Тамары Крайнік, вучні выступілі з мастацкай часткай, якую завяршыў абрад «Калядныкі», падрыхтаваны навучэнцамі беларускай мовы і настаўніцай беларускай мовы Ірэнай Герасімюк. Спачатку разам са сваёй настаўніцай удала выступілі дашкольнікі, пасля цікава запрэзентаваліся наймалодшыя вучні і іх старэйшыя сябры, якія спявалі, дэкламавалі вершы і цікава прэзентаваліся ў кароткіх і даўжэйшых сцэнках.

— Вучні, якіх я рыхтавала да выступу, дэкламавалі вершы і праспявалі песню, — сказала настаўніца Каміля Плева.

Частка вучняў выступіла ў святочных уборах. Цікава запрэзентаваліся вучні пераапранутыя за анёлаў.

— Частку касцюмаў анёлаў мы атрымалі ад старэйшых вучняў, якія ў мінулым выступалі падчас куцці, а частку убораў бацькі рыхтавалі цяпер, — сказала настаўніца Анэта Алексяюк.

Вельмі ўдала з калядкамі запрэзентаваўся школьны вакальны калектыў «Вясёлыя ноткі».

— Зараз мы рыхтуемся да выступу на «Сустрэчах з праваслаўнай калядкай» у Гайнаўскім доме культуры. Аднак падчас школьных мерапрыемстваў, якіх у нас многа ладзіцца, мы перш за ўсё спяваем свецкія песні, — заявіла апякун калектыву настаўніца Марта Вэршка.

Самым доўгім і займальным аказаўся народны абрад «Калядныкі», падчас якога запрэзентаваліся вучні, якія ходзяць на заняткі беларускай мовы. Іх выступленне пачалося з куцці, пасля дзеткі запрэзентавалі народнае калядаванне ў час Раства Хрыстовага і ў паслясвяточны перыяд. Вучні гаварылі прымаўкі, якія папярэджвалі калядаванне, прыгожа спявалі праваслаўныя калядкі і жадалі гаспадарам удала правесці надыходзячы год. Дзеткі, апранутыя ў кажухі, запрэзентавалі калядныя сцэнкі з цыганом і цыганкай, якія ўжо ў нашых вёсках зніклі.

— Выступаючы з абрадам «Калядныкі», дзеткі вучацца калядным традыцыям. Яны вывучаюць гістарычныя падзеі перыяду Раства Хрыстовага і ўдасканальваюць веданне беларускай літаратурнай мовы, — заявіла настаўніца беларускай мовы Ірэна Герасімюк.

Пасля мастацкай часткі дырэктар Тамара Крайнік пахваліла дзетак за ангажаванасць і ўдалае запрэзентаванне багатай святочнай праграмы.

— Мы сабраліся на Куццю і нам вялікая радасць, што мы можам сустрэць Нараджэнне Ісуса Хрыста, нашага Збавіцеля, які прыходзіць да кожнага чалавека і толькі ад нас залежыць, як мы яго ўспрымем, — сказаў настаяцель Праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве протаіерэй Лявонцій Анхім, які пажадаў сабраным радасна і ў здароўі правесці святы і па-беларуску зачытаў адпаведны фрагмент Евангелля паводле Матфея.

Пасля супольнай малітвы *Ойча наш* і блаславення ежы сабраныя селі за посны стол, застаўлены разнароднымі стравамі. Дзеткі, настаўнікі і бацькі спажывалі салодкую куццю, посны боршч з грыбамі, аладкі з макам, квашаную капусту з грыбамі, селядцы, рыбныя стравы, салаты, а папівалі яду традыцыйным кампотам з сушаных яблык, груш і сліў, падрыхтаваным паводле старой рэцэптуры. Вучні з дапамогай настаўнікаў выканалі ўпрыгажэнні на стол са свечкамі і ялінай.

— Мы перад самымі святамі Божага Нараджэння спатыкаемся падчас традыцыйнай куцці штогод. Гэта важная сустрэча і хочам прадаўжаць гэтую традыцыю. Штогод паказваем прадстаўленні па-беларуску, якія знаёмяць вучняў з нашымі традыцыямі. Дзеткі прэзентуюць свае акцёрскія ўмеласці. Сёння цікава запрэзентаваліся дашкольнікі і вучні астатніх класаў. Мы рады, што бацькі так ахвотна ангажуюцца ў школьныя мерапрыемствы і мы, настаўнікі, тут адчуваем сябе як адна вялікая школьная сям'я, — сказала дырэктар Тамара Крайнік. — Зараз у нашай школе стабільныя фінансавыя абставіны. Займаюцца ў нас 18 вучняў і 4 дашкольнікі. Прадбачваем, што такая колькасць дзетак будзе ў наступным школьным годзе. Нашы бацькі многа зрабілі для школы: ангажуюцца ў рамонт школьнага будынка і ў іншыя работы. Я зараз стараюся, каб бацькоў ужо не ангажаваць, але яны самі праяўляюць ініцыятыву. Напрыклад, упарадкавалі школьную спартыўную пляцоўку. Аб гэтым я даведалася ўжо пасля выканання работы, што было для мяне мілым сюрпрызам.

Бацькі арэшкаўскіх вучняў любяць арганізаваць школьныя мерапрыемствы для сваіх дзетак, а куццю лічаць галоўнай школьнай сустрэчай, якая абапіраецца на мясцовую праваслаўную традыцыю.

— Такім чынам дзеткі вучацца нашым традыцыям. Падчас Куцці ў школе пануе мілая атмасфера, адчуваецца надыход Ражджаства Хрыстовага. Беларуская літаратурная мова, на якой выступалі дзеці, нам родная, хаця калядкі спяваем на розных мовах. Зараз наша школа прыгожа адрамантаваная ўнутры, а ў класных кабінетах ёсць новая прыгожая мэбля і новыя цацкі для гульняў. Мы дапамагалі ў рамонтных працах і зараз рады, што нашы дзеткі вучацца ў такіх добрых умовах, — гаварылі мамы вучняў Анна Галёнка і Наталля Суліма.

— У гарадах бацькі вучняў праяўляюць менш ініцыятывы, а мы спаткаемся, пагаворым і пачынаем намагацца, каб арганізаваць нешта новае ў нашай школе, — заявілі Анна Вілюк і Анэта Красько.

Першымі ад поснага стала сталі адыходзіць вучні:

— Сёння адчуваецца ўжо перадсвяточны настрой, спажываем посныя стравы ў школе. А заўтра будзе куцця ў нашых хатах. На першы дзень Ражджаства Хрыстовага мы калядуем у Арэшкаве. Калядуюць яшчэ іншыя групы калядоўшчыкаў. Мы спяваем нашы ўлюбёныя калядкі і радасна праводзім час, — сказалі Малгажата Галёнка, Віялета Смолюк, Наталля Ніканюк і Зузанна Мішчук. — Мы рыхтаваліся да выступу па-беларуску на ўроках беларускай мовы і пасля заняткаў. Падабаюцца нам заняткі беларускай мовы, калі мы чытаем расказы, вершы і гаворым пра іншае. Мы рады, што пабывалі ў гэтым школьным годзе на дзвюх экскурсіях у Будах і Ляўкове.

— Я стараюся, каб заняткі беларускай мовы былі разнароднымі і цікавымі. Нашы вучні дабіваюцца поспехаў падчас цэнтральнага агляду дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова». У мінулым школьным годзе наша вучаніца Малгажата Галёнка стала там лаўрэатам — заняла другое месца. Нашы дзеткі паспяхова выступаюць падчас «Беларускай гавэнды». У наступным школьным годзе плануем прыняць удзел у прадметным конкурсе па беларускай мове. Мы выходзім таксама на прыроду і пасля стараемся расказваць пра тое, што ўбачылі. У першай палове школьнага года мы арганізавалі дзве экскурсіі. Пабывалі ў „Сяле Буды», дзе спадар Сяргей Нічыпарук абвёў нас па даўніх хатах, якія ўваходзяць у састаў скансэна, і паказаў нашым вучням як калісь жылі вясковыя людзі. У канцы пабыўкі дзеткі маглі паспрабаваць выканаць варэнікі з сырам, што ім вельмі спадабалася. Другая экскурсія была ў Новае Ляўкова, у аграквватэру «Бора-Здруй». Там мы ў скансэне «Бацькаўшчына» знаёміліся з даўнімі прыладамі працы і з лясной звярынай. Вучні маглі паспрабаваць разам са спадарам Барысам Казлоўскім пілаваць драўніну ручной пілой. Гэтая праца была для нашых дзетак асаблівым атракцыёнам. На занятках беларускай мовы мы часта працуем з «Нівай», чытаем артыкулы ў «Зорцы». Нам цікава што на занятках беларускай мовы робяць вучні іншых школ. Мы таксама рашаем ніўскія крыжаванкі і адказы высылаем у рэдакцыю, — распавядала настаўніца Ірэна Герасімюк.

Падчас школьнай куцці вучні і бацькі пазнаёміліся з новым нумарам «Нівы», у якім быў змешчаны каляндар на 2016 год.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Проста Лукша з Цісоўкі

— А, гэта ж мы дзякуючы твайму дзеду, Мікалаю Лукшы з Цісоўкі здабылі школу ў Міхалове, наш ліцэй! — прызнаўся на канферэнцыі ў Бельску-Падляшскім, прысвечанай Мікалаю Гайдуку, вучань таго агульнаадукацыйнага ліцэя, пасля яго дырэктар Базыль Нядзвецкі. А Мікалай Гайдук, які нейкі час працаваў у Міхалоўскай гміне, разведаўшы, што я, маладзенькая журналістка «Нівы», што расклалася са сваёй друкавальнай машынкай у кабінеце, дзе з ім працаваў яшчэ і Міхась Хмялеўскі — унучка таго Лукшы з Цісоўкі, сказаў: «А, ты ўнучка таго «народнага адваката»! Пісаў ён усім заявы, пісьмы ў суды і розныя ўстановы, вельмі талковыя, і паспяхова ўсё афармлялася. Сам я іх чытаў. Калі чалавек не ведаў, што рабіць, дык і сам ехаў з ім ва ўстанову, заступаўся. Ён жа і выхадзіў нам у міністэрстве наш ліцэй! — дадаў з гонарам выпускнік Міхалоўскага ліцэя з атэстатам сталасці нумар «2». А тая машынка — крыху вышчарбленая ад пастаяннага пастукавання ў шрыфт спрацаванымі пальцамі «Erika» стала гераіняй аднаго з маіх вершаў, прысвечаных Тутэйшым, вялікім звычайным людзям на роднай зямлі.



— Дарагое дзіця! Не важна, у якой форме ты памагаеш людзям. Ці ты пішаш, і на чым ты пішаш. Вазьмі пасля маёй смерці маю машынку, якая памагала многім. Пішы, нясі далей добрае слова, — сказаў мне дзед, калі пісалі мы разам манаграфію Ялоўскай зямлі, спісвалі гісторыі з ваколіц Навасад, Шымак, Цісоўкі, а я на старым цяжкім шпулечным магнітафоне (купілі мы яго з братам Яўгенам за сабраныя летам зёлкі) запісвала тамтэйшыя былі пра Завілдажнік, Рукаў, магілу байцоў у Залешанах... Я ўжо дэбютавала ў «Ніве» (1973 г.), выхоўвалася на яе старонках, а маімі ўзорамі былі следапыты і краязнаўцы Віктар Рудчык і якраз Мікола Гайдук. І Рышард Капусцінскі, які першыя свае рэпарцёрскія крокі (1957-1958 г.) накіраваў «Далёка» — у Цісоўку, у той «буш па-польску». Свяціў ужо тады жоўтым святлом адмысловы ліхтар на стоўбіку, там, дзе пачынаўся той «буш» і канчаліся чыгуначныя пуці — на нахіле стоку на месцы, дзе канчалася чыгунка з Гайнаўкі ў Цісоўку, таксама «выхаджаная» Мікалаем Лукшам. Нежывыя пуці надалей даходзяць у гэты закутак — прабягаюць яны праз Семяноўскае возера па характэрным мосце перакінутым цераз ваду. У возеры затопленая між іншым вёска, куды пайшоў жыць адзін з сыноў Мікалая, Міхал, мой хросны татулька, адзін з самых незвычайных «тутэйшых». А дзяцей у Мікалая і Марысі Лукшаў было шмат. Данка (Дуня) Шыкуць з Гарадка:

— Я палічу. Першая дачка Марыя (памерла ў 14 гадоў). Пасля Міша, Мікалай, Зіна (памерла ў 16 гадоў, на лёгкія), Янка (*мой бацька* — М.Л.), Андрэй і Валодзя, Шура, я — Еўдакія, Лявонь, Генік, Косіцк (хросным бацькам яго быў Берут; хлопчык утапіўся ў 3 гады). І Грэсь, які застаўся на гаспадарцы ў Цісоўцы. Разам было нас 13 дзяцей. І цяпер я адна з усіх засталася, памерлі ўсе.

Засталіся ў Цісоўцы мураванка Грэся, Лявоневая дачная хатка і вялікая драўляная дзедава хата. Апрача таго з пісьмовых набыткаў, якія адзін з сыноў спаліў пасля смерці бацькі (люты 1986 г.), засталіся толькі некаторыя друкаваныя дакументы і запіскі Мікалая Лукшы, захаваныя ў хаце з моцнай драўніны, якая перажыла і бачыла ў сваім жыцці не аднаго чалавека, у якой «выхадзіліся» і даспелі не адна задума і план. Мікалай Лукша аж да самае смерці дзейнічаў на грамадска-палітычнай ніве, быў ініцыятарам многіх важных пачынанняў. Працаваў пры адбудове школ у Шымках, Цісоўцы, Навасадах, пры рамонтах і пабудове новых дарог, арганізацыі меліярацыі. Працаваў на гаспадарцы, у старостве ў Беластоку, арганізаваў ПОМ у Міхалове. Быў заўсёды гатовы памагаць у цяжкіх сітуацыях суседзям і чужым людзям, якія патрапілі заехаць на цісоўскі хутар нават ноччу з просьбай пасадзейнічаць у іхніх справах. Лукша запальваў лямпу-газоўку, кідаў жонцы: «Маці, жар яечню і кілбасу, частуй госця!» і сядаў за працягнутыя дакументы, адкрываў сваю «Эрыку»...

— О, усе яго шанавалі за разумныя, рацыянальныя парады, не толькі мы, простыя людзі, але і вышэй яго цанілі — меў Кавалерскі крыж Ордэна Адраджэння Польшчы і сярэбраны значок «Заслужаны для Беласточчыны», мы памятаем, — прызналіся мне людзі, сядзеўшыя на доўгай лаўцы пад хатай у Навасадах, праваслаўныя і католікі, адразу пазнаўшы «што ты Лукшава», расчуленыя тым, што я гавару па-нашаму, і гатовы прытуліць мяне да сэрца.

— О, твой дзед то быў чалавек! Пажыў, то пажыў. Шчыра жыў, моцна. Дай Бог нам дажыць да таго ўзросту, не шкадуючы нічога, што ты рабіў у жыцці. Колькі людзям памог, часам нават выпрастаў некаторым жыццё. Не было для яго немагчымага! І табе, што хочаш — дамо, што трэба пакажам і раскажам, як сваёй! Удалася ты ў яго!

Успамінаў над магілай Мікалая Лукшы на ялоўскім могільніку ў марозны лютаўскі дзень 1986 года, калі нават слёзы замярзалі, святар: «Вось такія, нібы дробныя справы, пакідаюць незабыўны след у людской памяці. Гэты помнік вышэйшы і больш трывалы, чым каменныя помнікі!».

Час мінае, але людзі і іх быццам бы дробныя справы памятаюцца. Два гады таму на Куццю я была запрошана да маці Кацярыны Валкавыцкай, Валянціны Колпы. А яе матуля, Тамара Мелька, успаміналa, як да яе мужа Сяргея ў Засцянкі заязджалі «хлопцы» з Цісоўкі, каб дапамагчы нейкаму суседу афармляць жыццёва важную справу ў ваяводстве ці павеце. Гэта былі Мікалай Лукша, Ёзік Дудко (дзед Багдана), а пасля ехалі яны да Чэсіка Брысевіча, які далей курыраваў справу і афармляў яе належна. А Чэсік быў гэта дзед Мацея Халадоўскага.

Успамін Мікалая Лукшы, аддрукаваны на старэнькай машынцы, захаваўся як нешматлікі з уцалелых матэрыяльных памятак па ім.

## На партызанскіх сцежках Мікалай Лукша з Цісоўкі:

Я, Мікалай Лукша з калёніі Цісоўка, 65 нумар дому, пошта Шымкі, у Міхалоўскай гміне, Беластоцкага павета, нарадзіўся 10 лютага 1904 года ў Доўгім Барку ў Беларусі. У 1915 годзе пакінуў краіну па прычыне кайзераўска-нямецкай вайны. Даехалі мы коньмі ў Магліёўскую губерню, у мястэчка Хатавіж. Там кончыў я чатыры класы земска-прыхадской школы. У 1917 г. з бацькам пачаў працаваць на чыгуначнай станцыі Крычаў, ветка Орша — Унеча. Да мая 1921 г. быў я там тэлефаністам. Вярнуўшыся дамоў, стаў я працаваць фізічна ў Белавежскай пушчы ў надлясніцтве Броўск. Ад 1922 г. да 1925 г. быў гаёвым у гэтым жа надлясніцтве. У 1923 г. ажаніўся з Марыяй Мядзведзь. У 1925 г. узялі мяне ў армію, дзе служыў у Першым палку сувязі Зэгжэ пад Варшавай. У 1926 г. у час «маёвых выпадкаў» прымалі ўдзел тры роты нашага палка. У вулічных бітвах на Еразалімскіх алеях я быў ранены ў левую руку. У 1927 г. мяне звольнілі з вайсковай службы. Ад кастрычніка 1927 г. стаў працаваць у надлясніцтве Чало ў Белавесжкай пушчы як лясны дзяржаўны бракаўшчык, дзе рабіў уключна да 1930 г. Ад 1930 г. да 1935 г. працаваў на гаспадарцы маёй жонкі, і адначасова быў дарожным назіральнікам пры гміне ў Ялоўцы. Ад 1935 г. да 1939 г. быў заняты як гандлёвы прадстаўнік па продажы радыёпрыёмнікаў ад фабрыкі Электрыт у Вільні. Ад 1939 да 1941 г. быў майстрам Леспрамгасу ў Ваўкавыску, лесаўчастак у Ялоўцы. Ад 1941 да 1944 г. быў лясным бракаўшчыком Зэгіверк Свіслач.

У час нямецкай акупацыі падчас дзейнняў савецкай партызанкі на тэрыторыі Беласточчыны ў ваколіцах Белавежскай пушчы, пасля ўваходу нямецкай арміі была сарганізавана першая група Сцяпанам Фёдаравічам. Праўдападобна быў ён пракурорам у Бельску-Падляшскім, а ў Маскве кончыў дзесяць гадоў школы. Яго група налічвала 5 чалавек, быў сярод іх Ян Міклашэвіч, «старэйшы таровы» з кашаркі чыгункі Цісоўка — Буды, адрэзак Нараўка — Свіслач. Нядоўга ім прыйшлося быць у той канспірацыі ў ваколіцах паселішча Рукаў на Лонках, дзе мелі стаянку, радыёпрыёмнік і дастаткова зброі, а карысталіся харчаваннем з таго ж Рукава (Шафарні) ад Канстанціна Шаршуновіча. Той выдаў іх свайму швагру Кісялеўскаму з Масева. Той разам з немцамі з Нараўкі пайшоў у напрамку іх стаянкі ў шопцы з сенам, абстралялі тую шопку запальнымі снарадамі. Спаліліся радыё, ружжо і патроны, таксама Ян Міклашэвіч з калегам. Удалося ўцячы камандзіру групы і двум партызанам, з якіх адзін быў грузінам. Вечарам прыйшоў да мяне Сцяпан Фёдаравіч з грузінам, каб здабыць харчы і расказалі аб гэтым неспадзяваным нападзе на іх стаянку. Я даў ім харчы і асцярог, каб як найбольш пільнаваліся перад неперафільтраванымі людзьмі — калі хочуць узмоцніць атрад у людзей і ружжо, павінны мець добра заканспіраваных сувязных. Гэта быў мой першы кантакт з партызанамі.

На гэтым жа тыдні Сцяпан Фёдаравіч з дзесяццю партызанамі прыйшоў да мяне і патрабаваў даць яму радыёпрыёмнік, каб арыентавацца, як ідзе фронт. Я ў час гэтага

працяг ☞ 10

4 ☞ працяг

— кажа Ганна Кандрацюк-Свярубская. — З кніжкі можна вельмі многа цікавага даведацца пра абрады, напрыклад, як выглядаюць провады. Людзі пасля багаслужбы застаюцца і співаюць на могілках агулькі. Ёсць у кожным тэксце такая невымушаная прапанова этнаграфічных тэрмінаў. Бачым, якія стравы калісь былі, якая вопратка — усё гэта спалучаецца на ніве адукацыі. Думаю, што тут быў такі клопат спадарыні Аліцыі, каб разам са сцэнкай дзеці чамусьці навучыліся.

Праз добрую гульню, гумар, жарты можна так удзельніку, як і гледачу спазнаць абрады, якія неаднойчы можам толькі ўбачыць на сцэне. Наўрад ці недзе ёсць яшчэ жаночыя варажбы на гагатуху, ці сустрэчы аднавяскоўцаў на пакудзеллі. Аўтарка, абапіраючыся на мясцовыя расповеды, увекавечыла ў кніжнай форме вусны пераказ.



— Гмінная публічная бібліятэка ў Нарве рэалізавала праект „**Z satyrą i humorem za pan brat**". Ажыццяўляла яго група жанчын — мы назвалі іх сучаснымі традыцыяналісткамі, якія прыходзілі ў бібліятэку і распавядалі пра мінулае, — кажа дырэктар гміннай бібліятэкі ў Нарве Анна Анджэюк-Савіцкая. — А мы задумалі прыгадаць тыя даўнейшыя абрады, звычаі ў пісанай форме. Галоўнай мэтай праекта было выданне кнігі. Пры нагодзе адбыліся тэатральныя заняткі для дзяцей.

Кніжка „Трэба напісаць..." узнікла таксама дзякуючы падтрымцы шматлікіх спон-



сараў з Нарваўскай гміны, якія ўбачылі ў яе змесце своеасаблівы сродак прамоцыі гміны. Як заўважае войт Нарвы Андрэй Плясковіч, гэта першае выданне на беларускай мове ў гміне.

— Гэта для нас самае важнае, што нашую спадарыню Алю можам належным чынам ацаніць за ўклад у працу з нашай моладдзю, а таксама за працу дзеля захавання спадчыны нашай беларускай меншасці, — сказаў войт Андрэй Плясковіч.

Кніжка, апрача багатага зместу, ілюстраваная рысункамі, якія папаўняюць тэкст. Яны характэрныя для паасобных апавяданняў — таксама гумарыстычныя, адлюстроўваюць каларыт беларускай меншасці. Эстэтычная вокладка кніжкі нагадвае даўнейшы дыван ці ходнік, які яшчэ да нядаўна ўпрыгожваў нашы хаты. Заслугай Евы Алімоўскай менавіта ёсць арыгінальная графічная апрацоўка кніжкі.

Поўная зала ў святліцы ў суботу 16 студзеня ў Ласінцы ды грамадская спантаннасць сведчаць аб жывым зацікаўленні жыхароў гміны пісьменніцкай творчасцю спадарыні Аліцыі Станько. Аўтэнтычныя тэксты ў кнізе трапляюць да кожнага — ці гэта прадстаўнік старэйшага, ці маладзейшага пакаленняў. Кніжка гэта поспех не толькі аўтаркі, але і цэлай грамадскасці Нарваўскай гміны. „Сёння я адчуваю сябе так, быццам яшчэ адно дзіця я нарадзіла", — сказала на канец сустрэчы спадарыня Аліцыя Станько.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


Выступае Агата Беразавец, першая справа Аліцыя Станько.


Вучні з Нарвы

# Мяне натхнялі здольныя дзеці з Ласінкі!

Перад тым як Магда выступіць на ласінскай сцэне са сваёй гавэндай «Куфэрак», яна скажа перад шырокай публікай:

— У мяне няма слоў, каб выказаць удзячнасць пані Алі Станько. Яна напісала гэты твор спецыяльна для мяне на конкурс «Беларуская гавэнда». Ён узнік на аснове сямейных расказаў маёй бабулі Гандзі. Цяпер, калі гэты тэкст надрукаваны ў кніжцы, я буду магла перадаць яго сваім дзецям. А яны, пасля, зробяць тое ж самае... Мы заўсёды будзем памятаць хто мы і адкуль мы выйшлі.

Таксама іншыя ласінскія «акцёркі» — Паўліна і Бэата, сёння ўжо замужнія жанчыны, гаварылі ў падобным духу і выступалі на сцэне. Іх прысутнасць і разуменне дару, які атрымалі ад «цёці» Алі было самым прыгожым дапаўненнем прэзентацыі кніжкі «Трэба напісаць». Дзяўчаты, так як у школьныя гады, карысталіся жывой ласінскай гаворкай, на якой ажно палова ўсіх запісаных у кніжцы сцэнічных твораў.


Ласінчанкі. Магда, Бэата, Паўліна

— Гэтыя сцэнкі і гавэнды ўзніклі таму, — гаварыла Аліцыя Станько, — бо ў Ласінцы былівельміздольныя і таленавітыя дзеці. Яны прыходзілі да мяне ў бібліятэку і гаварылі, што ім трэба нешта на конкурс. Я ведала іх здольнасці і тэмперамент і таму пісала для кожнага такі тэкст, які пасаваў да характару «акцёра». Пасля ўсе разам перажывалі выступленні, а кожны поспех дадаваў нам крылаў і ўпэўненасці. А сёння, калі выйшла мая кніжка, я адчуваю сябе так, быццам яшчэ адно дзіця нарадзіла!

Найбольш гавэндаў спадарыня Станько напісала для тэмпераментнай Улі Беразавец з Ласінкі. У суботу, 16 студзеня, пад бурныя воплескі публікі прадставіла іх Агата, малодшая сятра Улі. Пераемнасць пакаленняў праяўлялася цягам цэлай імпрэзы. Дзве гадзіны на ласінскай сцэне выступалі нарваўскія малодшыя і старэйшыяшкольнікіз пастаноўкамі з кніжкі. Творы развучылі ў час тэатральных майстар-класаў, якія вяліся ў Нарваўскай бібліятэцы. Гэтыя выступленні паказалі, што губляем ужо спантаннае валоданне гаворкамі, а праца з дзяцьмі патрабуе намнога больш работы і ўвагі. Кніжны запіс дае шанц трываласці ў часе. Рэкамендуем настаўнікам беларускай мовы і энтузіястам рэгіянальных заняткаў (ласінскую гаворку лёгка перавесці на вымаўленне з роднай мясцовасці). Кніжку Аліцыі Станько «Трэба напісаць» выдала Бібліятэка ў Нарве.

**ЗОРКА**,
фота Ганны Кандрацюк

Каліса ПЯТРОЎСКАЯ
ПШ № 4, Беласток

## Я люблю спяваць

Спявае мама,
Спяваю я,
У нас спяваючая сям'я.

З сястрой гуляем,
Ціхенька спяваем,
Ноткі вывучаем,
Песні выдумляем.

Я люблю спяваць
У вечары і ў ранкі.
Для мяне гэта радасць,
А лялькам — калыханкі.

## УВАГА КОНКУРС! № 4-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 31 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

(з народнага)
**Спачатку падае,
пасля ўстае,
на канец
гасцінцы раздае.
Д....**

**Цёмна-сіняя рагожка
Скрозь усеяна гарошкам,
Пасярод акрайчык хлеба
Хто адкажа так, як трэба?
Н..., м...., з....**

**Адказ на загадкі № 52-15: літарка «ь». Узнагароды, кубачкі для гарбаты, выйгрлі Магда Бляўская і Караліна Кандрацкая з Нараўкі. Віншуем!**

# Карнавал і калядкі

Якраз у разгары карнавал — час танцаў, песень і забавы. Хоць за акном снег і мароз, у школе весела і калярова. На ўроках спяваем калядкі і ставім прадстаўленні пра яслі і зіму. Цёплы, калядны настрой дапамагае нам перачакаць цёмныя раніцы, халадэчу.

Яшчэ больш цяпла і радасці прыносіць супольнае калядаванне.

У класе другім «б», што ў бельскай «тройцы», не могуць дачакацца ўрокаў з песнямі. Не дзіва — дзеці ажно ірвуцца, каб штось заспяваць. Як не дзіва, яны ведаюць многа беларускіх песень. У час нашай сустрэчы не было канца музычным прэзентацыям. Пачала Мая Фальварская, якая «раскрунула» цэлы клас. Адразу знайшліся іншыя салісты: Марта Татарчук і Шымак Гадзінскі. Пасля некалькіх хвілін спяваў і танчыў цэлы другі «б» клас, разам з настаўніцай Мартай Ігнатовіч.

За нашымі каляднымі прэзентацыямі ўважна назіраюць дарослыя. Яны адразу дацэняць незвычайныя выступленні. Адразу прыкмецяць новыя з'явы. І тут — нечаканасць! Зараз для нас «навацыю» з'яўляюцца старыя калядкі і прызабытыя канты, знойдзеныя ў бабуліных сшытках. Вядома, іх трэба старанна развучыць і звонка заспяваць на галасы, спалучыць з прывітальнымі словамі і пажаданнямі.


фота Ганны КАНДРАЦЮК

Такі выклік падняла ўжо студзіводская «Жэмэрва», хоць мала хто з нашых маладых калядоўшчыкаў ідзе за гэтым няпростым прыкладам. Амаль усе аддаюць перавагу навінкам. Добра, калі тыя навінкі сугучныя з нашай спадчынай і культурай. А то бывае, што выступаюць навучэнцы беларускай мовы і спяваюць пагуцульску ці па-балгарску ды зусім не праяўляюць зацікаўлення калядкамі на роднай мове! Людзі слухаюць і пытаюць: а чаму гэтых навінак не перакласці на беларускую мову? У такі спосаб пашыраем веданне мовы і больш глыбока перажываем змест песні. Такой практыкай карыстаецца наш добраведамы гурт «Прымакі». Многія іх гіты, якія мы лічым «чыста» беларускімі, якраз перакладзеныя з рускай ці ўкраінскай моў. Гэта падказка для тых навучэнцаў беларускай мовы, якія ўмеюць спяваць і хочуць прадаўжаць спадчыну продкаў.

**ЗОРКА**

Міра ЛУКША

## Сасна

*Хвоечка-сасонка,*
*што расцеш так гонка,*
*ці на пясках сыпучых,*
*ці на балотах дрымучых,*
*і ў скалу ўчэпішся карэннем,*
*упарта, моцна, з цярпеннем,*
*і тысячы метраў высока*
*пнешся, каржыста, у аблокі...*
*Водар твой баровы*
*духмяны, здаровы,*
*ці маўклівa гнешся ў паміне,*
*ці кідаеш на вецер галіны.*
*Святлолюбівая сястрыца,*
*з рудой ці шэрай карыцай,*
*з гаючаю пахкай жывіцай –*
*гонкая-звонкая, ці ніцая...*
*У казках жывеш і ў быліцах,*
*з агнём і вадой, што бруіцца,*
*пад коранем скарбы трымаеш,*
*сякеру іскрай зламаеш...*
*Нявесту, дружку іграеш,*
*замуж рана*
*дзеўку аддану:*
*– Ой, не скрыпі, сасна,*
*мая зялёная сястра, –*
*маладзіца сумна пяе,*
*слёзы жывічныя лье...*

Цікава – прачытай **ГІСТОРЫЯ КОМПАСА**

Хто і калі вынайшаў компас — невядома. У кітайскіх кнігах захавалася адна цікавая легенда. 500 год таму назад імператар Ху Ан-дзі гнаўся за мангольскім ханам. Манголы адступалі ў пустыню. Там іх коннікі ўзнялі такія хмары пылу, што яны закрылі ўсё неба. Кітайцы збіліся з дарогі і войску пагражала гібель. Тады імператар Ху Ан-дзі паставіў на сваёй калясніцы жалезнага чалавека, якога яму падарыў адзін мудрэц. Гэты чалавек заўсёды паказваў рукой на поўдзень. З яго дапамогай Ху Ан-дзі вывеў войска з пустыні.

Арабы карысталіся компасамі гадоў 800 назад. Яны рабілі іх у выглядзе намагнічаных жалезных рыбак. Рыбку клалі на ваду, і яна паварочвалася галавой на поўнач.

Італьянскія купцы, якія гандлявалі з арабамі, прывезлі компас у Еўропу. Але яны надалі яму форму не рыбкі, а жабкі.

Компасы, падобныя на сучасныя, — са стрэлкай, якая круціцца на вострым шпяні, — з'явіліся ў пачатку XIV стагоддзя. (апр. ЯЦ)






### Вольнае месца

Быў дзіўны даволі
Тэлефон з прадшколля:
– Вольнае месца маем
Вашаму Мікалаю.

– Гэта ж нейкае дзіва,
Час бяжыць так імкліва...
Наш каханы сыночак
Ажаніцца ўжо хоча.

### Непаразуменне

Да гарадской кватэры
Хтосьці трукоча ў дзверы.
З кватэры раптам потым
Нехта азваўся: – Хто там?

– Я да вадамера –
Пачулі ў кватэры.
– Няма ў нас такога,
Адказалі строга.

## Польска-беларуская крыжаванка № 4-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 52:**

Смак, касміт, стары, жук, карта, за, сук, месца, шаптуха, фарш, дар, старшы, арт. Космас, раса, струк, фа, шмат, шар, Іра, марш, ты, лепшы, ліст, мяжа, цуда, Захар, кукла, арт.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Іаанна Нікіцюк, Магда Рошчанка, Наталля Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Карнелія Барэчка, Аня Радзівончык, Тамаш Харкевіч, Мартына Лукша** з Нараўкі, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Раксана Івацік** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Эрык Бяганьскі, Флёрыян Яворскі** з Бабік. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Koło | Szansa | | | | |
| | Sok / Sęk | Romb | | Szczara / Wiedza | | Rzym | Cegiełka | |
| | Rower | | | | | | | |
| Kolory / Jedzenie | | | | | | | | |
| | Madam / Dąb | | | | | | Jar | |
| | | | | | | Jan | | |
| | | | | Marzenie | | | | |

**На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.**

Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка V

Студзеньскім вечарам, дня шостага, 1943 году, Nadine пастукала да гаспадароў... Загаварыла гаспадыня, фраў Грэтхен. Загаварыла — Надзін аслупянела — на... цудоўна-чыстай... р-у-с-к-а-й мове!..

— Мы, Nadine-Надюша, из поволжских немцев, не удивляйся!.. Предки наши стали там из Германии при императрице Екатерине Великой, всякую городнину они там как и здесь мы теперь, чрез столетия разводили!.. В революцию, 18/19 года, удалось нам оттуда бежать, тут мы обосновались с родителями... Оба сыновья наши тут уже родились; и, погибший наш старший — Ганс, и Курт, по-русски понимают, как и хозяин наш — отец и главшеф, Франц, по-русски как по-своему глаголет, про Волгу часто, тайком, напевает!..

— Мы очень полюбили тебя, Надюша, за трудолюбие твое, за сердечность! Наш Павлинка — души в тебе не чает, еле Шарлотта за это не ревнует, но она у нас — умная, как мы — одного склада!.. Мы знаем, всё это в памяти нашей, тогдашней! Завтра Православное Торжество, Рождество Христово, января седьмого всегда!.. Ты, вот, возьми, пожалуйста, ведь это и твой Праздник — хотя ты из католической Польши, мы знаем — ты из востока, мы на карте высмотрели твою Беловежскую Пущу!.. Ты — возьми! Тут по-чину, селёдка, кисель из овса — как на востоке, хлеб, чеснок, иные овощи, зелёные и сухие, компот из груш!

— Мы всё время помним те давние, волжские Рождественские Дни: Святый Вечер, сочельник, самый Праздник, так величественно всеми празднуемый!.. Нас русские наши соседи всегда к себе звали праздновать, хотя мы лютеране и свой Праздник имели 25 декабря, на две недели раньше, в чём нам никто и никогда не мешал, с почтением к нам относился!.. Мы помним, Надин, как мы пели с ними, «Рождество Твое, Христе Боже наш, возсия мирови свет разума», ведь так, правда?.. Я запомнила многие Службы, а хоры то, хоры казацкие какие там были!.. Голоса какие, небесные!.. С Праздником тебя, Надюша!.. — Скажи своим, пусть православные с утра на работу не идут, после обеда где-то!.. Иди с Господом!.. Мы видим — святая ты дивчина!..

Надзін праплакала ўвесь вечар!.. Пра рускую мову гаспадыні яна нікому не сказала!.. — Ну, знаюць па календары, што ноне Свята Праваслаўнае, і далі вось!.. Ешце!.. Ну, з Празднікам, хоць мы і не ў сябе!..

Дзяўчаты, некаторыя з украінак і беларусак, разам з Надзін праспявалі некалькі калядак!.. Кожная ўспомніла свой дом; Надзін паляцела ў думках да свае Пушчы, д-а-м-о-ў! Пра Тамашка згадала, ён быў недалёка, але з завода іх не адпускалі!.. Ён абяцаў такі прыехаць!.. Nadine пабачыла, што ў доме гаспадароў не было Курта, але ж як пытаць і чаму пытаць? — відна — дзесь у Гамбургу...

Праз некалькі дзён, гаспадыня — як бы знячэўку — у парніку, узяўшы Паўля на рукі, які і сёння круціўся каля Надзін, сказала: — Наш Курт на фронце, слава Богу што не ў Расіі, дзе крывавая лазня; ён недзе за тваім Беластокам, Надзін!..

---

Пачыналася красавіковая ранняя вясна, грэла яснае сонца, зелянелі лугі і так прыгожа, як у Пушчы над Нараўкай, паўсёды тут на іх цвіла залатая, жоўтая лотаць, ці як інакш яе дома звалі: качэнец, калужніца...

Ноччу, на ферме, загудзелі самаходы; іх было два, вайсковая жандармерыя!.. Раніцай, у гэты дзень, у парнік НЕ прыйшлі жанчыны з гаспадарскага дому!.. Моўчкі, з французскімі і рускімі, з гароднінай паехаў у Гамбург гаспадар Франц... Ён тайком выціраў слёзы!.. Назаўтра, Шарлота шапнула (па-нямецку) Nadine ў парніку: — Курта прывезлі!.. Ён без левай нагі па калена!.. Недзе за Варшавай, пад якімсьці Брэстам, нямецкі ваенны эшалон пайшоў пад адкос!..

---

Маўчанне было паўсёды, толькі маленькі Паўль — як званочак — парушаў маўклівасць гаспадароў і шаптанне рабочых...

Праз тыдзень, мо амаль два — з-н-о-ў у суботу зайграў, вечарам Курт!.. Nadine п-а-з-н-а-л-а: гэта быў пачатак фартэпіяннага шапэнаўскага канцэрта F-moll, гэткае санатнае Allegro maestoso, дзе — пасля смычкоў і драўляных інструментаў — уступае tutti аркестр: потым будзе другая частка — Larghetto — накцюрна-лірычная экспрэсія, мяккая і спеўная кантылена, і — трэцяя часціна — Allegro vivace, дзе, неспадзявана, адазвуцца — адзін за другім — танцы: куявяк і мазурка.. Малодзенькі, ледзь дваццацігадовы Фрыдэрык пасвяціў гэты канцэрт для сваёй нясмелай, першай любові — каханай Канстанцыі Гладкоўскай... Курт іграў велічна і ласкава і — хаця не было тут аркестра — здавалася Надзін, што яна ў зале варшаўскай філармоніі, дзе віртуозна іграе яе к-а-х-а-н-ы б-р-а-т Антоша, спадзея славы кансерваторыі — будучы вялікі польскі піяніст... Што з ёю?!. Твар Антошы, яго постаць!.. І музыка Курта!.. Дзе яна?.. Х-т-о г-э-т-а і-г-р-а-е? .. Яе каханы Антоша, такі мілы і дабрэйшы яе брат?!. Але — іграе Курт!.. Твар аднаго замяняецца другім!.. А, вось, яны два, п-о-б-а-ч, с-т-а-я-ць ужо, п-е-р-а-с-т-а-л-і іграць!.. Антоша з-н-і-к-н-у-ў!..

Зноў іграе Курт!.. І чаму ён з-н-о-ў іграе Grande Valse? У іх жа НЕ было пра я-г-о ніякай размовы! Адкуль Курт з-н-а-е пра гэты я-е В-а-ль-с?.. Нейкі містыцызм, Госпадзі!.. Бо — ч-а-м-у (што тут дзеецца?) г-э-т-а-к да сябе клічуць Надзін г-э-т-ы-я гукі Вальса?.. У яе ж не было з Куртам ніякай р-а-з-м-о-в-ы пра Шапэна. Пра G-r-a-n-d-e V-a-l-s-e ! Нашто размова, калі і Курт ведае, што яна з Польшчы?!.

Адазваліся, паплылі, як імгла лёгкая, спакойна — ледзь-ледзь закалыхаліся цудоўныя пацёрачкі-расіначкі, як у паэзіі адклікаюцца харэі-слогі-сылябы доўгія і кароткія, ударныя і няўдарныя... І галоўная тэма Es-dur — як нейкі скок-прыжок у дом, у мары, у вечнасць. У даль за даллю, пераходзіць у спеўную калыханку, каб потым, у канцы, стрымгалоў п-а-л-я-ц-е-ць увысь — у-в-е-р-х!.. У д-а-ль нябесную, неабдымную, сінюю-с-і-н-ю-ю, як ільняная палоска квітучая, п-о-л-е цэлае, залітае с-о-н-ц-а-м!..

Якогась дня Курт прышындыбаў на арагод... Ён сказаў Nadine, толькі для яе: — Гэта я д-л-я ц-я-б-е іграў!.. На гэты раз ён гаварыў — стараўся гаварыць!.. — па-руску!.. Надзін усё разумела, хаця гэта быў К-у-р-т-а-ў «русский язык»!..

— Глянь, які я цяпер «зух»! Я і не салдат і не піяніст, і не чалавек, які ўсё сам можа зрабіць!.. Адной нагой не памахаеш ні ў чым!.. «Kommt Zeit — kommt Rat" — і час настаў, Nadine, і рада знайшлася!.. І магчымасць, спасобнасць!.. Бацькі высылаюць мяне ў Нарвегію, у Осла, гэта не так далёка адсюль, там татава сястра Эліза (сама яна таксама «з рускіх», з-над Волгі), мне там нагу даробяць-дапасуюць! Тата не хоча, каб я тут быў, каб нішто мне не прыпамінала маю вайну!.. Ён сказаў, што нават і прадаў бы гэту гаспадарку, але хто яе ў вайну купіць?.. Ён упэўнены, што заўтра ці праз тыдзень наляцяць сюды самалёты, англійскія, а мо і рускія!.. Бо ці ведаеш ты, што Берлін бамбілі савецкія самалёты нават у 1941 годзе, у чэрвені, калі мы толькі што напалі на іх?..

Бо, Nadine, с-ю-д-ы вайна т-о-ж-а прыйдзе! Страшнейшая чымсьці мы думаем!.. Бо ці ж рускія могуць сваё з-а-б-ы-ць, прасціць?!. Там жа ўжо — колькі часу — п-е-к-л-а!.. І ў нас згарыць-спапяліцца ўсё!.. Я бачыў т-в-а-ю Польшчу, Надзін!.. Там нашы «героі» знявечылі ўсё!.. Спаленізна адна там!.. І Богу дзякуй, і тым партызанам, што наш поезд у дым пусцілі, у роў!.. За маю нагу! — бо я ж-ы-в-у! І я — в-я-р-н-у-ў-с-я!.. А мог і астацца ляжаць у зямлі тваёй, Nadine!..

— Ты — ведай, мне трэба многа чаго сказаць!.. Мо заўтра?.. Сёння мая адвага прапала!.. Такі я «ваяка», хоць з Шапэнам яшчэ якасьць раджу!.. Бо ён для ц-я-б-е! З просьбай — калі гэта ўсё кончыцца! — ад'язджай ты не дамоў! Ты едзь у Францыю ці Бельгію! У нас тут будзе антыхрыстовае пекла! Бо хто ж гэта выбачыць нам гэту вайну?..

— Герр Курт, маіх ужо ў Польшчы ніякіх няма, суседка шыфрам напісала, што бура прайшла — дахі ў нас пазрывала, што трое коней нашых забралі, што значыць: гаспадарка спалена, а трое — мама, тата, дзедка — забраны! А «паэзія» яшчэ была ў пісьме — у садку асталіся вісець толькі тры яблыкі; значыць: мае п-а-в-е-ш-а-н-ы!.. Пэўна — за партызанаў, герр Курт!.. У мяне цяпер — ці солі, ні долі! Мне хоць у мора, у акіян!..

— Ты не кажы так! Каб ты ведала!..

— Герр Курт, мне цяпер усякі дом — мой дом!.. Дзе затрымаецца мая лодка — там і стану!..

— А я, бач, паеду ад зямлі маёй!.. Ды толькі думаю — я-к мне маіх блізкіх забраць адсюль, каго кахаю?!. Бо йдзе на нас страшная расплата!.. Бо наш народ забыў, што „Lügen haben kurze Beine"— што ашуканствам далёка не заедзеш; што над намі „mit der Dummheit kämpfen Götter selbst vergetens" — як сказаў вялікі наш паэт Шылер, якога ў нас выкінулі і кніжкі спалілі! — нават багі з дурнотай людской ваююць надарэмна, безрэзультатна!..

— Я табе, Надзін, перад ад'ездам павінен сказаць — ты мне мілая і дарагая! — і я хачу, каб ты ад мяне самога гэта пачула! Я хачу — каб ты з-а-ў-с-ё-д-ы была! Заўсёды ж-ы-л-а!.. Гэткае я так адчуваю першы раз! Я нікому, пра такое нікому не гаварыў! Бо ніякіх дзяўчат я тут нямецкіх і не знаў!.. Шындлеры, што пад Гамбургам самым жывуць, сябры нашы — з адным хлопцам, які з-пад Масквы і не вярнуўся; Крайслеры, сваякі нашы — ад Шарлоты — сына ў фіёрдах Нарвегіі, пры якойсьці «цяжкай вадзе» затрацілі!..

— Nadine, кахаю я цябе! Хоць ведаю, што немцу гэтага з табой няможна!.. Выходзіць, што гэта не наша супольная доля!.. Я ж ведаю — ты хлопца свайго ў Любецы маеш, на работах!.. Страшныя дні — і ён цябе пабачыць НЕ можа, яго з ваеннага завода не адпусцяць!.. І я табе, г-о-л-а-с-н-а, на свет цэлы прызнацца не магу!.. Але ты чакай, мо каторы з нас да цябе, у спакойны час, калісь потым, да цябе прыйдзе, прыб'ецца!.. Я — добры чалавек, Nadine, права ж, але мне напісана, як у паэта: «Was im Liede soll erstehen, muss im Leben untergehen» — што ў песні (маёй) мае жыць — у жыцці (маім) павінна прапасці, загінуць!.. Гэта м-а-я такая «L-i-e-d-e», песня мая, і такі я «Dichter»-паэт!.. В-а-й-н-а! Якое тут нам «Wein, Weib und Gesang» — віно, жанчыны і спеў?.. Як казалі калісь старыя рымляне, пра часы, апошнія гадзіны свайго жыцця: «Vulnera omnis ultima necat» — яны ўсе (мінуты) раняць, але апошняя (хвіліна) забівае нас на смерць!.. На с-м-е-р-ць! На маю к-а-н-ч-ы-н-у!.. Бо мне цябе ў-к-р-а-л-а вайна!..

(працяг будзе)

# Пад ветракамі



Студзеньская пятніца. Досвітак. На прыпынку Беласток-Стадыён чакаю цягніка ў напрамку Чаромхі, які мае там з'явіцца каля трынаццаці хвілін да сёмай. Чакаюць яшчэ тры асобы. Цягнік не прыязджае. Пасля паўгадзіны прыязджае сустрэчны поезд, а гэта абазначае, што час адпраўлення цягніка ў Чаромху становіцца загадкай. Чакаючы народзік разыходзіцца хто куды...

У наступны дзень такі ж поезд прыязджае пунктуальна. Пытаю праведніка, чаму поезда не было суткамі раней, але ён нічога не ведае, бо той дзень быў яму выхадным...

Падарожжа ў зімовы досвітак дазваляе любавацца нерукатворнай графікай, якая дынамічна прасоўваецца за вокнамі вагона. У тую пару прырода дальтанічная, двухколерная — у белых і шэрых пейзажах, але багацце ўзораў непаўторнае.

На палях паказваюцца групкі казуль. Ад чалавека яны ўцякаюць, але да поезда ставяцца даволі даверліва і з цікавасцю прыглядаюцца гэтаму дзівосу, які ў свежым снезе прасоўваецца даволі ціха, без пагрозлівага грукату.

З поезда злажу на прыпынку Падбелле. На пероне і далей, да дарогі, што з Падбелля вядзе ў напрамку Тапчыкал, прачышчана ад снегу вузкая палоска. І здавалася б, што калі ў такім бязлюдным месцы, якім зараз сталі нашы чыгуначныя прыпынкі, расчышчана ад снегу кволая сцяжынка, то ўжо напэўна і больш важная дарога таксама прыбрана ад гэтага не ўсім выгаднага пуху. Калісь-калісь, калі людзі карысталіся санямі з конскай цяглавой сілай, снег быў нават пажаданы для саннай прагулкі, але ж цяпер, калі з вёсак пазнікалі коні, больш трывалыя сані апынуліся пад нейкімі падстрэшнікамі, а менш трывалых ужо папросту няма. І снег на дарогах ужо толькі перашкаджае колаваму транспарту. Аднак дарога ў напрамку Тапчыкал у суботнюю раніцу яшчэ не ў ліку прыярытэтных для расчысткі і дзве пары бадай трактарных калян рупліва задувае памяркоўная мяцеліца. Гэта бадай першая ў сёлетнюю зіму завіруха. І вось трэба капацца ў непрыхільным снезе і нават крыху мірыцца з думкамі аб памяркоўным падабенстве такога змагання з зімовым насілам са змаганнем альпіністаў з абледзянелай гранню; акурат на днях чытаўся мне такі сюжэт...

Дарога пралягае побач гонару мясцовага самакіравання, побач завода ІКЕІ. З ягонага коміна паднімаецца на самавольства ветру светлы дым, які зараз жа раствараецца ў шэрым небе. Ад завода раздаецца далікатны шум машын, крыху далей уключаецца ў гэтую індустрыяльную музыку і падобны на пеўнеў голас гудочак манеўравага лакаматыва. Апрача шуму завод выпускае ў навакольнае асяроддзе і пах свежанькага пілавіння. На завадской аўтастаянцы снег паволі прысыпае каля двух дзясяткаў легкавушак. Над імі чатыры сцягі на мачтах, у іх ліку два дзяржаўныя: польскі і шведскі. З гэтага месца і „мая" дарога грунтоўна расчышчаная, а з бельска-кляшчэлеўскай шашы вельмі дастойна з'язджаюць на яе дзве цыстэрны з пулаўскай прапіскай. Побач скрыжавання, як гэта ў нас прынята, стаіць цэментны абярэжны крыж.

Крыж выконваў у нашай традыцыі сакральную ролю, з'яўляючыся свайго роду дазволеным рэлігійнымі аўтарытэтамі пакорлівым зваротам да звышпрыродных сіл за ўсялякім дабром. Але ж чалавечы космас поўніцца не толькі дабром, у ім часам пажаданае і зло, а гэтае апошняе маюць наклікаць усялякія чары. І вось побач дарогі ў Тапчыкалы красуецца прывязаная да сцяблінкі маладой таполі пластмасавая пустая бутэлька, якая, так мне здаецца, выконвае там нейкую забабонную функцыю — можа засцерагальную ад нячыстых сіл, а можа і нейкую тыя сілы прыцягальную; хто ж ведае расшыфроўку нестандартных дзеянняў нашага разнароднага народу. Найбольш крыклівыя сродкі масавай інфармацыі пазіцыянуюць крыніцы зла недзе ў трыдзявятых землях, а тых крыніц поўна ўсюды, у тым ліку і ў зусім неэкзатычных нам месцах.

У сённяшні час насельніцтва нашых вёсак мала відаць. Заслугай такой оптыкі з'яўляюцца, галоўным чынам, дэмаграфічныя працэсы. Ды і надвор'е ўносіць у гэты краявід свае капейкі. Хто ж будзе без патрэбы паказвацца на вуліцу ў час мяцеліцы? Таму вясковая вуліца ў непагоду здаецца пустою. Аднак на адносна свежым снезе зафіксаваны сляды чалавечай актыўнасці. І вось я стаў прыглядацца, да якіх хат ёсць людскія сляды. І падлічыў, што да трыццаці пяці хат у Тапчыкалах няма надзённых слядоў. І астаўся б я з гэтай статыстыкай, калі б не паказаліся на вуліцы ў канцы вёскі два мужчыны. Спярша спытаў я пра суседнюю невялічкую хатку, у якой было прыадкрыта акенца цалкам сучаснага дызайну.

— Гэта каб мышы бегалі, — адказалі мне рэзалютна.

— А ці ветракі не надта дакучаюць вам сваім шумам? — спытаў я пра ветравыя электрагенератары, якія амаль пахіляюцца над вёскай.

— Не, не надта, — адказалі мне і парэкамендавалі прыслухацца. Сапраўды, ад даволі байкаватага ветру ўтвараўся ў іх крылах памяркоўны шум.

— А ці ў начную цішыню не перашкаджаюць яны заснуць? — дапытваўся я. І атрымаў на гэта адмоўны адказ. Пацікавіўся я далей, ці не выглядаюць яны нейкай аўтакрамы і даведаўся, што адна ўжо праехала, з самай раніцы, з хлебам, а другія з'яўляюцца пазней. Дарэчы, размова на вуліцы ў такое надвор'е не надта пажаданая, аднаго з мужчын паклікала ў хату жанчына, а і другі таксама мог зараз паказаць мне плечы. Таму спытаў я пра солтысаву хату. Гадоў таму мо з дзесяць на супрацьлеглай хаце была шыльда першай асобы ў вёсцы, а зараз я такое шыльды на той жа хаце не заўважыў. Аднак, як сказалі мне мае размоўцы, персанальны парадак у Тапчыкалах не змяніўся, толькі солтыс, рамантуючы хату, зняў шыльду...

— Можа ён куды паехаў? — насцярожваюся.

— Найверагодней дрэмле перад тэлевізарам — чую ў адказ.

І сапраўды, калі заходжу ў хату, здаецца, што яе гаспадар толькі што падняўся з пасляснеданковай сіесты. Солтыс Тапчыкал Юры Кулік пацвярджае недакучлівасць недалёкіх ветравых турбін — крыху чуваць іх працу, нават у хаце, але гэта ні ў чым не перашкаджае. Ну, можа, некаторым, чыё поле не было абрана пад будову ветрака. Бо за тое, што стаіць ён на полі, гаспадар атрымлівае дваццаць тысяч у год. І за гэта пасля дваццаці пяці гадоў участак, на якім пастаўлены электрагенератар, становіцца ўласнасцю ветравой фермы.

Згадваю пра падлічаныя мною пустыя хаты і дапытваюся пра вясковую дэмаграфію, колькі яшчэ людзей астаецца ў Тапчыкалах на зіму. Паколькі наогул людзі не ведаюць дакладнай лічбы, пытаю, ці будзе пяцьдзясят. Ну, будзе больш за пяцьдзясят. Па вёсцы курсіруюць аўтакрамы з Боцькаў, Вышкаў, Бельска, Орлі. А калі трэба да лекара? Ну то трэба падацца машынай, хаця магчымы і прыезд лекара да хворага. Людзі запісаны да амбулаторый у Бельску і ў Орлі; у апошняй мясцовасці адна лекарка, працуе таксама аптэка. А як жа да лекара дабрацца старэйшым людзям? Трэба дамаўляцца з нейкім суседам, у якога машына; машын у вёсцы дастаткова. А можна ў гмінную Орлю заехаць і на школьным аўтобусе. З Тапчыкал у арлянскія школы даязджае пяцёра дзяцей, у тым ліку і солтысава дачка ў гімназію. Яна вывучае беларускую мову і чытае „Ніву". Пытаю спадара Куліка, ці і ён чытае нашу газету. Гартае і чытае, калі што яму цікавае. А каляндар? Ніўскі каляндар вартасны, але ў пакоі, дзе размаўляем, вісіць іншы каляндар — царкоўны. Раней, тлумачыць спадар Кулік, калі Яўген Чыквін быў дэпутатам Сейма, ён раздаваў солтысам свае календары, але сёлета ўжо не. Пытаю пра дарогу ў Спічкі і даведваюся, што ветравая ферма праклала дзве жвіроўкі ў напрамку Спічкоў дзеля даезду да сваіх ветракоў.

Калі пакідаю хату спадара Куліка, на дарозе з напрамку Орлі паказваюцца два снежныя плугі. Недалёка за Тапчыкаламі ад адснежанай дарогі адыходзіць адна са жвіровак у напрамку Спічкоў. Дзесяць гадоў таму я таксама ішоў у тым жа напрамку і так тады пісаў: „За вёскай шукаю памечаную на тапаграфічнай карце дарогу ў Спічкі. Знаходжу; гэта сялянская дарога з вёскі ў поле. У неабкошанай траве выгадна залеглы снегу, якому там ніхто не перашкаджае. І я іду верхам паралельнага загона. З узвышша паміж дзвюма вёскамі любуюся краявідам, якога ў тэлевізары не даводзіцца бачыць. І водар тут непаўторны".

Цягам дзесяці гадоў мясцовы краявід карэнна памяняўся. Згаданая раней ІКЕЯ бачыцца крыху збоку ад гэтага ўзвышша, але на самім узвышшы паміж Тапчыкаламі і Спічкамі стаіць зараз дзевяць аграмадных ветракоў. Калі адтуль глянуць у напрамку Орлі, пакажуцца чарговыя: нядаўна, восенню, каля Шчытоў сталі працаваць чарговыя шэсць...

Праходжу каля аднаго з ветракоў. На дарожцы да яго шлагбаўм і асцерагальная табліца, якая забараняе падыходзіць да яго. Бо ветравыя электрагенератары небяспечныя і не з'яўляюцца панацэяй нават на забруджанне асяроддзя. Вікіпедыя: „Według badań przeprowadzonych przez brytyjski think tank Civitas, w przeliczeniu na jednostkę energii elektrownie wiatrowe przyczyniają się do wyższej emisji CO2 niż elektrownie węglowe. Wynika to z tego, że elektrownie wiatrowe produkują prąd przez około 30% czasu i muszą być wspomagane przez elektrownie węglowe, których ciągłe rozpalanie i wygaszanie powoduje większą emisję zanieczyszczeń, niż nieprzerwana praca". І далей: „Z czynników mogących wpływać na zdrowie ludzkie najczęściej wymieniane są efekty akustyczne i optyczne generowane przez obracające się turbiny. Badania wpływu dźwięków o niskich częstotliwościach oraz efektów wizualnych na zdrowie ludzkie są fragmentaryczne, prowadzone od niedawna, a ich wyniki są często kwestionowane. Coraz więcej środowisk przyznaje jednak, że taki wpływ jest obserwowany w wielu krajach i może mieć znaczenie dla zdrowia. Wraz ze wzrostem liczby uruchamianych turbin rośnie liczba awarii i spowodowanych przez nie wypadków z udziałem ludzi. Najwięcej wypadków spowodowanych było urwaniem łopaty turbiny wiatrowej. W skrajnym przypadku fragmenty łopaty zostały odrzucone na 1300 m od turbiny. Kolejnymi potencjalnie niebezpiecznymi czynnikami związanymi z energetyką wiatrową są kawałki lodu odrywające się od łopat. Odnotowano przypadek odrzucenia kawałków lodu w czasie obrotu łopaty na odległość 140 m od wieży".

А на жвіроўцы як на звычайнай палявой дарозе — тут таксама поўна снегу. Можа гэта нават і добра, бо сыры прабіўны вецер, які бадзёра круціць прапелеры ветракоў, таксама жвава прабіваецца праз вопратку і залеплівае сняжынкамі вочы. Змагаючыся з глыбокім снегам, вызваляю ў сабе дадатковую цеплавую энергію, якая кампенсуе захопленую ветрам.

Прыгадваю, што перад Спічкамі калісь самотна стаяў у полі драўляны крыж. Зараз яго не відаць. Але падышоўшы бліжэй бачу, што ляжыць ён гарызантальненька, быццам на катафалку. Быў час, калі той крыж уносіў разнастайнасць у краявід побач Спічкоў. Зараз туды ўварвалася зусім іншая, надта буйная, разнастайнасць і той крыж выглядае быццам кануў ён з жалю па страчанай чысціні, не толькі прыроднай.



**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

5 працяг

# Мікалай Лукша з Цісоўкі:

спаткання не быў упэўнены, хто ён такі і не даў ім нічога. Праз пару дзён паявіўся ён у мяне з яшчэ большым лікам людзей і даў мне зразумець, што ён арганізуе штораз большы ў людзях і зброі атрад, каб ваяваць на тылах нямецкага фронту з гітлераўцамі. Я даў яму дэтэфон і слухаўкі, антэну і іншае. Але гэта яго не задавальняла. Даведаўся ад мясцовых, што я быў прадстаўніком ад фабрыкі Электрыт у Вільні і маю магчымасці мець радыёпрыёмнік, слухаю яго і перадаю розныя весткі давераным сябрам аб фронце. Сцяпан Фёдаравіч збіраў штораз больш людзей, пераважна з уцякаючых з нямецкіх рук савецкіх салдат. Даставіў я яму новае радыё з поўным яго аснашчэннем. Пакідаючы нашу тэрыторыю, савецкія салдаты пакінулі тут мноства рознай зброі, і мне ўдалося знайсці 10 штук наганаў, 10 кулямётаў Дзегцярова і 5 штук дзесяцістрэльных вінтовак, адну скрынку з цынкавай бляхі, у якой была тысяча штук патронаў да кулямётаў і мноства іншых патронаў да вінтовак. Знойдзенае ружжо аддаваў я не адразу, бо не раз партызаны падыходзілі несур'ёзна, стралялі хіба для нейкай сатысфакцыі, а калі былі атакі немцаў, не было чым бараніцца. Пазней трэба было дазбройваць і навапрыбылых у атрад людзей. Дзейнасць на нашай тэрыторыі Сцяпана Фёдаравіча і яго атрадаў Колькі Французава, Мішкі з Бялынкавіч, Грышына, Мікалая Боўтрыка, Грышкі Заверухі, Васілія Пятровіча і шэрагу іншых крывава абышлася швабам! Закладвалі міны на чыгуначных пуцях на адрэзку Нараўка — Свіслач, узарвалі чыгуначныя масты на лугах вёскі Міклашэва, сарвалі пуці ў выемцы насупраць Семяноўкі разам з цягніком, што вёз немцаў на фронт. Была падкладзена «жаба» ў ваколіцах Беразіны, а каля Свіслачы — там проста чалавечыя вантробы ўзляцелі на драты тэлефонных слупоў ад выбухаў мін на пуцях пад цягніком, які ехаў на фронт з салдатамі і зброяй. Разграмілі бургамістра Станіслава Салавея ў Нараўцы — гэта ён першы даканаў злачынства на яўрэях з усяго мястэчка Нараўкі: разам з немцамі загнаў іх у лес за мястэчкам і даў загад капаць ямы — там іх усіх расстралялі і закапалі напаўжывых у зямлю. Разбілі маёнтак Геранімова — забралі шмат коней і свіней, харчоў і нават дубальтоўку дырэктара, ды спалілі палац баранесы Рамлёвай. Спалілі тартак Расашок (Жаркаўшчына) камісарам групы Мікалаем Боўтрыкам, тартак у Свіслачы спаліла група Сцяпана Фёдаравіча. Грышын, лётчык з Адэсы, некалькі раз пускаў у адхон цягнікі і ўзрываў чыгуначныя пуці на адрэзку Жэдня — Валілы — Бераставіца. Быў ён славутым мастаком, рабіў эскізы з узарваных цягнікоў і ўцякаючых немцаў... Цяжка гэта дакладна апісаць. Супрацоўнічаў я з імі аж да іх адыходу ў Ружанскія лясы на загад Панамарэнкі, галоўнага камандзіра савецкай партызанкі, і групоўкі больш сіл на тылах фронту немцаў, адыходзячых з тэрыторыі СССР і Беларусі. Сувязістам падатрада гэтай групы быў Грышка Заверуха, які пасля прыбыцця да мяне з васямнаццаццю асобамі даў загад наладзіць кантакт з атрадам Мікалая Боўтрыка аб перагрупоўцы атрадаў у адну брыгаду. Трэба ўспомніць, што група Сцяпана Фёдаравіча ў 1942 г. трапіла пад абстрэл немцаў на іх стаянцы на хутары Залешаны (Завелдажнік). Згінулі там васямнаццаць чалавек з атрада, толькі камандзіру ўдалося выйсці жывому ды двум партызанам, у тым ліку таму грузіну. На другі дзень немцы прыбылі на той хутар, дзе стаялі былі партызаны. Янку і Юзафу Грыкам не зрабілі нічога, толькі Аляксандра Ягорава, у якога быў Сцяпан Фёдаравіч з грузінам і іншымі, вывелі з яго хаты і перад дзвярамі расстралялі разам з яго зяцем Уладзімірам Янелем і адным савецкім палонным, які ў іх жыў.

Я працаваў у час нямецкай акупацыі як лясны бракаўшчык пад вялікім націскам. Калі быў у мяне дома камісар групы Мікалай Боўтрык (прывёз радыёпрыёмнік для рамонту), у той момант над'ехаў нямецкі шуцман Юзаф Дамброўскі з Шымак, каб мяне арыштаваць і даставіць у нямецкую жандармерыю ў Ялоўцы. Боўтрыка мы хутка схавалі ў хаце, і ён усё чуў, як шуцман адносіўся да мяне. Шуцман патрабаваў гарэлкі, дык я яму сказаў, што пашукаю ў вёсцы. Так і было. Даў я яму напіцца, каб пачакаў мяне ў маёй хаце. Ад'ехаў я ў вёску з Боўтрыкам. Дагаварыліся, што калі б немцы хацелі мяне вывезці, каб зніштожыць, яны стануць у маёй абароне і забяруць у лес, дзе ім прыдамся пры радыё. Боўтрык сказаў, што калі я буду працаваць у немцаў, дык партызаны будуць мець больш каштоўны матэрыял аб тым, якія будуць рухі немцаў на нашай тэрыторыі. Так і было. Наладзіў я кантакт з нямецкім перакладчыкам у Свіслачы, дзе няраз у тыдзень ездзіў да дырэктара тартака — часам і тры разы ў тыдзень. Той перакладчык быў пры атрадзе ўласаўцаў, якія стаялі ў Свіслачы для ліквідацыі партызанкі. Я давозіў яму самагонку. Няраз і папілі мы з ім пры піўе і закусі. Ён казаў мне, калі іх атрад мае рушыць у глыбінку і ў якія ваколіцы і лясы. Я працаваў у сямі надлясніцтвах, і ў кожным вызначаным і дамоўленым месцы былі нашы знакі аб руху немцаў і сувязныя скрынкі з абменам розных вестак, так для партызан, як і для мяне — розныя загады і спосаб іх выканання. Такое ў час акупацыі было рызыкай, патрабавала цярплівасці і моцных нерваў. Некалькі раз абшуквалі мяне гестапа і жандармерыя, арыштавала і дапытвала гестапа ў Падазеранах, пасля рэвізіі, калі мяне не было дома. Мэтай вобыску былі пошук зброі і двух радыёпрыёмнікаў, пакінутых партызанамі для рамонту. На шчасце не ўдалося ім нічога знайсці і пасля трох гадзін допытаў звольнілі мяне на другі дзень. Перад пачаткам вобыску папярэдзілі былі маю жонку, што калі знойдуць радыёпрыёмнікі, уся наша сям'я будзе расстраляна, дык лепш адразу прызнацца. Жонка адказала, што нічога не ведае пра гэтыя справы, а радыёпрыёмніка не бачыла дома ад часу, калі нямецкія жаўнеры забралі яго з дому і далі пасведчанне аб гэтым. Адзінае маё шчасце было, што ў той час мяне не было дома — вазіў я камене на шашу ў Баброўнікі. Усяго хапала нашым людзям у гісторыі!

**Запісана 13.03.1975г.**

Мы заўсёды гатовы дапамагчы студэнтам, якія жадаюць абараніць свае правы!

ПАДТРЫМКУ АТРЫМАЮЦЬ САМЫЯ АДДАНЫЯ

# http://studrada.org

Беларускае студэнцтва па сваёй сутнасці маса даволі канфармісцкая. З аднаго боку гэта зразумела — у сучасных умовах дыктату ўладаў на ВНУ, адсутнасці акадэмічных свабод, боязі быць выкінутым з універсітэта з-за актыўнай грамадскай пазіцыі прыводзіць студэнта да высновы, што лепей сядзець ніжэй травы і цішэй вады. Але з другога боку такі канфармізм ёсць нейкай ненатуральнасцю для маладосці, асабліва інтэлектуальна прасунутай часткі моладзі, якая, здаецца, мусіць старацца змяніць свет на свой капыл, альбо, па меншай меры, гучна заяўляць пра свае правы і патрабаваць да іх павагі.

Апошнім больш-менш гучным выступленнем студэнтаў у Беларусі стаў іх марш з патрабаваннем адмяніць у Белдзяржуніверсітэце плату за пераздачу іспытаў і залікаў. Па вялікім рахунку ён не прывёў ні да чаго, акрамя таго, што найбольш актыўныя яго ўдзельнікі былі пакараны штрафамі. Разам з тым ёсць надзея, што такія выступленні ва ўмовах пагаршэння эканамічнай сітуацыі ў Беларусі створаць адносна моцны студэнцкі рух, які будзе ставіць на мэце абарону правоў навучэнцаў. Тым больш, што арганізацыі, якія маглі б быць у яго авангардзе ў Беларусі існуюць. Адна з такіх — „Студэнцкая рада", сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://studrada.org.

„Спрыянне фармаванню новых пакаленняў студэнтаў, паўнавартасных удзельнікаў адукацыйнага працэсу, якія маюць актыўную грамадскую пазіцыю і крытычнае мысленне; студэнтаў, якім уласціва пачуццё салідарнасці і імкненне да свабоды і шчасця, якія адносяць сябе да студэнцкай брацкай супольнасці, і для якіх атрыманне ведаў з'яўляецца прыярытэтнай каштоўнасцю", — такую місію вызначылі для сябе стваральнікі і сябры арганізацыі, якія, праўда, не называюць сваіх імёнаў.

Сваёй мэтай актывісты студэнцкага руху вызначаюць менавіта абарону правоў студэнтаў. Дарэчы, лозунг, які яны размясцілі на галоўнай старонцы такі: „Мы заўсёды гатовы дапамагчы студэнтам, якія жадаюць абараніць свае правы!". Ну а для таго, каб дасягнуць сваёй мэты, актывісты бачаць патрэбным вырашэнне такіх задач як стварэнне механізмаў абароны правоў студэнта і прадстаўленне інтарэсаў студэнтаў перад адміністрацыямі ВНУ, міністэрствам адукацыі.

Варта адзначыць, што сайт „Студэнцкай рады" даволі просценькі і не мае якіх-кольвечы прываблівающых аздабленняў. Большая частка галоўнай старонкі аддадзена пад навіны, якія цалкам прысвечаны студэнцкаму жыццю. Абнаўляюцца яны даволі рэгулярна, што вельмі важна ў сённяшніх умовах, калі падзей, так ці інакш звязаных з тэмай абароны правоў студэнтаў, у Байнэце не вельмі многа.

Паколькі сайт мае прававую накіраванасць, то рубрыка „Юрыдычная кансультацыя" ёсць натуральным для яго. Праўда, там не адшукаеш адказаў на так званыя FAQ (найчасцей задаваныя пытанні), бо ў рубрыцы месціцца толькі акенца для задавання пытанняў уладальнікам сайта. У некаторай ступені тут можа дапамагчы рубрыка „Бібліятэка", дзе змешчаны разнастайныя брашуры, справаздачы, і дакументы, якія так ці інакш тычацца правоў студэнтаў.

Нягледзячы на тое, што відэаінфармацыя на прававую тэматыку ўспрымаецца лягчэй, чым друкаваная, на сайце „Студэнцкай рады" ёсць толькі адно відэа, якое рэкламуе арганізацыю.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

Характэрны лёс беларуса

# 125 гадоў з дня нараджэння Фабіяна Ярэміча

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч Фабіян Ярэміч нарадзіўся 20 студзеня 1891 г. у вёсцы Дуляўцы каля Росі (Ваўкавыскі раён). Паходзіў з беларускай каталіцкай сям'і. Скончыў электратэхнічную школу ажно ў Пецярбургу. Потым працаваў у Вільні тэхнікам. У 1912 г. патрапіў у турму за сацыял-дэмакратычную працу і прапаганду сярод тэлеграфістаў. Быў старшынёй Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта. Абраны дэлегатам і ўдзельнічаў у працы Першага Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 г. Сябра прэзідыума Беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Сябра Рады БНР у 1918 г. У 1919-1922 гг. працаваў начальнікам тэлефоннай станцыі ў Вільні.

У польскамоўных крыніцах, на падставе архіўных звестак сцвярджаецца, што Фабіян Ярэміч ваяваў на польскім баку ў час польска-бальшавіцкай вайны ў Беларускім палку стральцоў. За гэта ў 1930 гг. атрымаў як вайсковы асаднік зямлю на Паўночна-Усходніх Крэсах, быў чальцом Аб'яднання асаднікаў. Аднак, беларуская гісторыкі даводзяць, што гэта быў зусім іншы чалавек з такім жа прозвішчам.

Фабіян Ярэміч тройчы абіраўся дэпутатам сойма Польшчы ў 1922-1935 гадах. Стаў старшынёй Беларускага пасольскага клуба (1925-1930) пасля выхаду адтуль Браніслава Тарашкевіча. Актыўна ўдзельнічаў у працы Таварыства беларускай школы. У 1925 г. быў адным з заснавальнікаў і лідарам Беларускага сялянскага саюза, у 1926 г. — Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Быў выдаўцом газеты „Сялянская ніва" (1925-1930). У 1926 г. у складзе польскай парламенцкай дэлегацыі (у яе ўваходзіў таксама Пётр Мятла) наведаў БССР. У 1927 г. Ярэміч разам з Васілём Рагулям занялі прынцыповую пазіцыю ў справе разгрому Грамады. У лютым на сойме Ярэміч, хоць і не падзяляў сацыяльных і эканамічных поглядаў Грамады і тым больш вельмі крытычна ставіўся да палітыкі камуністычнага кіраўніцтва БССР, выступіў у падтрымку грамадаўцаў і спрабаваў не дапусціць суду над імі. А ў 1928 г. Фабіян Ярэміч на кароткі час быў сам арыштаваны з фармулёўкай „за антыпольскую дзейнасць".

У час Другой сусветнай вайны Ярэміч працаваў у органах нямецкай акупацыйнай адміністрацыі ў Менску і Барысаве. Удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе 1944 г., быў у яго прэзідыуме. У канцы вайны не з'ехаў на Захад і быў арыштаваны НКВД у 1945 г. Зняволены ў савецкі канцлагер, дзе быў ажно да 1956 г. Пасля вярнуўся ў Вільню, дзе дажываў два апошнія свае гады. Памёр 29 чэрвеня 1958 г. у сваім доме ў Калёніі пад Вільняй (цяпер раён Павільнюс) пасля цяжкай працы ў агародзе ад інсульту. Пахаваны на Павіленскіх могілках. Па некаторых сведчаннях магілу ніхто не даглядае. Помнік нядаўна зменены, а прозвішча на ім цяпер напісана на чужы капыл — „Еремич".

Можна сказаць, што лёс Фабіяна Ярэміча склаўся як у многіх беларускіх дзеячаў першай паловы XX стагоддзя — з усімі супярэчнасцямі, пошукамі свайго, праблемамі, рэпрэсіямі няпростага перыяду.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

1 ☞працяг

# Размеркаванне па-над перапісам

Айчыны ў Студзіводах», у сваю чаргу, размеркавалі на дзейнасць калектыву «Маланка» 14,5 тыс. зл. Гэтае згуртаванне атрымае ў асноўным некалькі тысяч злотых на некалькі падзей, а таксама на дзейнасць калектыву «Жэмэрва» (16,9 тыс. зл.), у той час ані граша на рэалізацыю прадстаўленай міністэрству прапановы фестывалю старабеларускага і славянскага пісьменства і 30-годдзе Музея малой Айчыны. Будзе аказана падтрымка для некалькіх мерапрыемстваў Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты». Найбольш на чарговы фестываль «Бардаўская восень» — 53 тысячы злотых. Міністэрства, аднак, не прыхілілася да просьбы фінансава падтрымаць офісныя выдаткі Звязу «Шчыты» і сарганізаванне «Купалля» ў Нарве. Ані граша Звяз не атрымаў на набыццё абсталявання, так як і на мадэрнізацыю сістэмы ацяплення ў сваёй сядзібе.

Па некалькі тысяч злотых на беларускія мерапрыемствы атрымалі дамы культуры: на тры ў Белавежы, тры ў Гарадку і два ў Чыжах (мерапрыемства пад назвай «Пэрэпэліца — захаваем нашы традыцыі» не атрымала падтрымкі). У сваю чаргу, Гмінны асяродак культуры ў Міхалове ў гэтым годзе на Беларускія фольквхавія сустрэчы атрымаў 30 тысяч злотых, але нічога на выданне зборніка «Беларускія песні Міхалоўскай зямлі». Сумай 23 тысячы злотых субсідзіраваны чарговы выпуск «Пэрэточа» ў Белавежы Фонду «Царкоўная музыка». Грошы на арганізацыю фестывалю «Басовішча» — пасля перыяду пакарання за няправільныя разлікі — атрымала Беларускае аб'яднанне студэнтаў (100 тыс. зл.). БАС таксама з ведамаснага фонду зможа адсвяткаваць сваё 35-годдзе (8 тыс. зл.). Віла Сакрата на сёлетнія Трыялогі мае 19 тысяч злотых. Накіраваная на калярэлігійную дзейнасць Асацыяцыя «OrthNet» таксама атрымала грошы з бюджэту МУСіА, прызначаныя на развіццё культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей. 11,5 тыс. злотых атрымае праект «Беларускія лёсы: Іерамія — наш архіепіскап з Адрынок». У гэтым кантэксце варта адзначыць, што таксама з гэтых міністэрскіх фондаў грошы на два праекты атрымаў, напрыклад, Епархіяльны цэнтр праваслаўнай культуры «ELPIS» — на конкурс лэмкаўскай паэзіі для дзяцей і моладзі ды вядзенне бібліятэкі і майстэрні дыгіталізацыі (алічбоўкі).

### Рашае старшыня

Багуміла Бэрдыхоўская, адна з трох незалежных экспертаў, вылучаных арганізацыямі нацыянальных меншасцей і ўключаных у ацэначную камісію з шасці асоб па заяўках на гранты (іншых трох прадстаўляюць міністэрства пад старшынствам Юзэфа Ружанскага, дырэктара дэпартамента рэлігійных веравызнанняў і нацыянальных і этнічных меншасцей МУСіА, раней МАіЛ):

— Прадстаўнікі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі перад галасаваннем па асобных прапановах у нашай камісіі заяўлялі, што сумы былі кансультаваны і дамоўлены з прадстаўнікамі арганізацый нацыянальных меншасцей. У мяне няма магчымасці праверыць ці вызначыць, ці яны былі і якія яны былі. Калі арганізацыі звярталіся да нас, экспертаў камісіі, мы маглі да галасавання прымаць іх прапановы. І былі тыя, якія звярталі ўвагу, што на чымсьці ім асабліва залежыць, або кансультацыя не адбылася так як павінна быць. Я не памятаю, каб хтосьці з беларускіх арганізацый да нас звярнуўся, што нешта не так. Да карэспандэнцыі паміж арганізацыямі нацыянальных меншасцей і міністэрствам у гэтых выпадках не маем доступу. Кожны з нас на працягу апошняга галасавання па прапановах фінансавання ў камісіі мае адзін голас. Калі прадстаўнікі міністэрства галасуюць блокам, выйграваюць галасаванне, таму што ў сітуацыях, калі галасы балансуюцца, пераважае голас старшыні.

— І што, мае быць так, што калі хто крычыць гучней, той атрымае больш? — задае рытарычнае пытанне старшыня Сычэўскі.

Багуміла Бэрдыхоўская (кожны дзень звязаная з украінскім асяроддзем):

— Я не адчуваю, што адрозненні ў субсідзіраванні беларускай і ўкраінскай меншасцей з'яўляюцца значна непрапарцыйнымі, але, магчыма, чагосьці я не заўважыла. Розніца паміж дзейнасцю гэтых арганізацый мае важнае значэнне: украінцы жывуць у дыяспары пасля перасялення — акрамя Варшавы, у Пярэмышлі, Кашаліне, Гданьску, Ольштыне і Вроцлаве, а беларусы, як правіла, жывуць кампактна на адной тэрыторыі. Іншая справа дзейнічаць на тэрыторыі аднаго ваяводства, а іншая па ўсёй краіне. Гэта іншы спосаб існавання і функцыянавання.

### Датацыі СМІ

На дзейнасць Радыё Кашэбэ Асацыяцыя «Пуцкая зямля» МУСіА вылучыла ў гэтым годзе 300 тысяч злотых, на 100 тыс. злотых больш, чым Радыё Рацыя — транспамежная радыёстанцыя, на дзейнасць якой грошы здабыў Цэнтр грамадзянскай адукацыі «Польшча-Беларусь», а гэтая сума з'яўляецца супастаўнай з фінансаваннем Асацыяцыі «Руска Бурса» ў Горліцах, якая вядзе лэмкаўскае радыё LEM FM(203 тыс. зл.).

Праграмная рада тыднёвіка «Ніва» атрымала ў гэтым годзе фінансаваю падтрымку конкурсу паэзіі і прозы «Дэбют» (12 тыс. зл.), літаратурнага семінара «Бязмежжа» (11 тыс. зл.), Сустрэч «Зоркі» (14 тыс. зл.), а таксама 60-годдзя нашага штотыднёвіка (20 тыс. зл.). Што з'яўляецца найбольш важным, на выпуск нашага часопіса атрымалі мы 492 тыс. зл. Столькі ж як і ў мінулым годзе, нягледзячы на ўсё большыя выдаткі і на просьбы павялічыць гэтую суму. Гэта рашуча менш, чым у 2006 годзе (амаль 594 тыс. зл.), 2007 (594 тыс. зл.) і 2008 (больш за 537 тыс. зл.). У чарговыя гады наступіла зніжэнне фінансавання да 470,5 тыс. зл. у 2014 годзе. Толькі ў 2012 годзе мы былі атрымалі крыху больш чым сёлета на... тры тысячы. Для параўнання, Фонд Князя Канстанціна Астрожскага на «выдаванне паказваючага розныя аспекты грамадска-культурнага жыцця нацыянальных меншасцей, якія пражываюць у Польшчы» дадатку да штомесячніка «Przegląd Prawosławny» — „Sami o sobie" атрымаў 60 тысяч злотых. Грамадска-культурнае таварыства яўрэяў у Польшчы на выдаванне штомесячніка «Dos Yiddishe Wort» атрымаў 230 тыс. зл., а яўрэйскі двухмесячнік «Мідраш» — 145 тыс. зл. Кашубска-Паморскае аб'яднанне на выдаванне часопіса з кашубскамоўнымі старонкамі і кашубскамоўных дадаткаў «Nasjo Uczba» і «Stegna» — 210 тысяч злотых. Украінскі штотыднёвік «Наше слово» СУуП — 420 тысяч злотых, а выдаваны СУП двухмесячнік «Над Бугом і Нарвою» — 115 тысяч злотых. А Таварыству славакаў у Польшчы сёлета на выдаванне штомесячніка «Život» прызначана 220 тысяч злотых, калі штомесячніку «Czasopis» — 160 тысяч злотых. Такім чынам, на выданне аднаго, у 12 старонак, нумара «Нівы» ў сярэднім тыражы каля 1 400 асобнікаў маем каля 9 500 злотых, калі часопісы іншых меншасцей, прымаючы пад увагу розныя калькуляцыі, часам нашмат больш.

Багуміла Бэрдыхоўская:

— Мусіла б быць згода ўсіх арганізацый меншасцей на ўвядзенне аб'ектывізаваных правіл па субсідыях для выдачы прэсы, напрыклад, датычных тыражу ці частоты з'яўлення, ад якога б гэтыя субсідыі залежалі. На дадзены момант няма такіх рашэнняў, таму што няма на гэта згоды з боку меншасцей. Такія вырашэнні мелі б свае плюсы, але і вялікія мінусы.

Яўген Вапа, старшыня Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва» сітуацыю нашага штотыднёвіка каменціруе дыпламатычна:

— У 2016 годзе «Ніва» будзе святкаваць юбілей 60-годдзя. Гэта вялікая падзея ў жыцці беларусаў у Польшчы. Аграмадная таксама яе роля для беларускай і польскай культур. Аднак многія планы, задумы, звязаныя з выдаваннем нашага тыднёвіка, разбіваюцца з-за недастатковага фінансавання ў апошніх гадах. Спадзяемся ўсё ж такі на лепшае.

❖ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# 24.01 — 30.01

**(22.03.—20.04.)** Някепская ў фінансах, зоркі падкінуць карысныя прапановы. Мноства энергіі. 27-31.01. абяцаецца табе мілае правядзенне часу ў кампаніі. Але ў апошнія дні можаш стаць адзін супраць іншых. Хаця можаш здабыць вельмі важныя інфармацыі. Грошы таксама знойдуцца — Марс можа сыпануць імі да 28.01. Варта зрабіць прыём — будзе незабыўны!

**(21.04.—21.05.)** Найбольш дасягнеш усяго на працы ці ў вучобе. Магчымае павышэнне. Але не дай сябе звабіць на хуткі залаты заробак. Калі шукаеш працы, стукай ва ўсе дзверы. Упрыгожвай сваё атачэнне, можаш асвяжыць сваё жыллё. 28-31.01. пазнаёмішся з цікавымі людзьмі.

**(22.05. — 22.06.)** Пераможаш усю канкурэнцыю! Але дбай аб свае абавязкі і не парушай правіл. Разглянься таксама за дадатковым заробкам. Будзь асцярожным у сардэчных справах. Твой мозг — цяпер найважнейшы эратычны орган! Хтосьці схоча цябе пасварыць з сябрам, але сам трапіць у сваё сіло — усё высветліцца 27-31.01. Насі з сабою горны крышталь. Не займайся плёткамі, асабліва 24, 25.01.

**(23.06.—23.07.)** Твой партнёр здзейсніць твае самыя скрытыя мары. Твае задумы нарэшце атрымаюць кошт фінансаў зрэалізуюцца! 28.01. чакае цябе добрая пасада! Дбай аб сваё сэрца і кровазварот, пацікаўся натуральнымі метадамі лячэння. У «закальцаваных» парах могуць паявіцца гарачыя канфлікты; нявярта спрачацца з-за драбязы! Паўтарай афірмацыю: «Наша каханне мацнейшае за ўсе праблемы, разам пераможам кожную перашкоду!»

**(24.07.—23.08.)** Будзеш адважны, упэўнены і рашучы. Але нанова разгараецца канфлікты, якія ўдалося патушыць. Мілая атмасфера ў кампаніі. Перамажы свае лакомства, каб не патаўсцець. А дасі рады цяпер з кожнай кепскай звычкай. Грошай больш не будзе, але застанецца крыху ад свят, дык можаш зрабіць раўнд па крамах з уцэненымі таварамі.

**(24.08. — 23.09.)** Шчасце, лёгкае здзяйсненне некаторых мараў. Паафармляеш без праблем справы ва ўстановах і на рабоце. Спадзявайся тэлефона ад свайго старога знаёмага з часу, калі быў табе ён блізкі. Варта аднавіць гэтае знаёмства! У касе сухавата, можа памагчы табе чырвоны кашалёчак :-).

**(24.09.—23.10.)** 24.01. трэба будзе адмовіцца ад чагосьці, на чым табе залежыць. Будзеш нервовы, браць усё да сябе, але больш сур'ёзныя канфлікты супакоіць Сатурн. Калі шукаеш працу, бярыся за гэта інтэнсіўна, высылай CV або занось іх сам — маеш большыя шанцы, каб звярнулі на цябе ўвагу і запрасілі на размову. Цяпер можаш таксама заснаваць сваю фірму. На рабоце не чакае павышэнне, магчымы таксама выйгрыш! Будзеш на вялікім плюсе! Можаш наняць ці купіць большую кватэру або пазбыцца кватаранта. А асобу для сэрца лёс сашле табе 28-31.01.

**(24.10. — 22.11.)** Многа энергіі і волі да дзеяння. Будзеш мець знакамітыя задумы на здабыццё дадатковага заробку. Адважныя мары набяруць рэальнага кшталту. У каханні добра, калі што не так было, паправіцца 27-31.01. На працы пакажаш свае найлепшыя бакі, смела прадстаўляй шэфу свае задумы. Гуляй! Але вельмі сцеражы свой кашалёк!

**(23.11. — 22.12.)** Спакой душы, сіла, каб перамагчы найцяжэйшыя справы. Пакажашся з як найлепшага боку, здабудзеш прызнанне і нават апярэдзіш іншых. Але сур'ёзна падыходзь да канкурэнцыі. Падумай, што хочаш рабіць праз 5-10 гадоў, намець ясны і просты шлях кар'еры. Не дай сябе ўцягнуць у дробныя канфлікты. Слухай парад старэйшых сямейнікаў. Ашчаджай, правер свае выдаткі.

**(23.12. — 20.01.)** Добры настрой і форма фізічная і інтэлектуальная. Можаш зрабіць важныя змены ў жыцці сваім і іншых. Схадзі да лекара на кантрольныя абследаванні. У каханні вяжучыя рашэнні. На працы «сайгон», ператалсоўкі, можа зваліцца на цябе дадатковая работа; справішся лёгка і на выдатна.

**(21.01. — 19.02.)** Дасягнеш усяго, што здавалася быць далёкім. Але ў апошнія дні магчымыя канфлікты на працы. 27-31.01. на працы прадстаў план, які будзе прыняты. Калі маеш сваю фірму, можаш падзейнічаць у зусім іншай галіне. Сінгл можа звязацца з асобай з вялікай розніцай ва ўзросце.

**(20.02. — 21.03.)** Бярыся за амбітныя дзеянні, з вострай інтуіцыяй і веданнем, у што інвеставаць. Можаш пазмагацца за лепшую работу і здабыць чыёсьці сэрца. Мноства нагод для сустрэч. 27-28.01. застукаць да цябе можа каханне, будзь гатовы яму адчыніць! Прылыў грошай, дадатковых і можа неспадзяваных. Заінвестуй іх добра. Найлепш у сябе самога. І навучыся пячы хлеб!

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

1. сонечнае надвор'е, 2. не найдаўжэйшае, але найглыбейшае возера ў Беларусі, 3. не мір, 5. збудаванне, дзе разводзяць агонь для нагрэву памяшкання, 6. людзі нанятыя для апладзіравання выступоўцам, 7. дрэва сямейства тутавых, смакоўніца (*Ficus carica*), 8. падножка, па якой або паднімаюцца ўверх, або спускаюцца ўніз, 9. прадмет, які служыць цэллю пры вучэбнай стральбе.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | 2 | |
| | | | | | | | 3 | |
| 5 | | | 6 | 7 | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | 8 | | | | | | | 9 |

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Ар, Ленін, мяса, Піна, семя, шоўк.

Рашэнне: **Салаўя песнямі не накорміш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



Аляксей Анішчык у сваёй віленскай кватэры, 2002 г.

Спадчына

# Беластоцкія вершы Андрэя Чэмера

Пад псеўданімам Андрэй Чэмер на старонках беларускага друку выступаў мемуарыст, педагог, журналіст і грамадскі дзеяч з Вільні Аляксей Анішчык (1912-2007).

Складаны лёс быў у гэтага чалавека, хаця пражыў ён шмат гадоў. Нарадзіўся на хутары Мондзіна на Навагрудчыне непадалёку ад возера Свіцязь. Закончыў Навагрудскую беларускую гімназію, а потым эканамічны факультэт Універсітэта ў Познані.

Перад Другой сусветнай вайной Аляксей Анішчык апынуўся ў Варшаве. А калі пачалася вайна, запісаўся ў батальён абароны польскай сталіцы, за што быў пазней узнагароджаны медалём.

Пасля капітуляцыі Польшчы вярнуўся на Навагрудчыну выкладчыкам роднай мовы і літаратуры ў школе. А потым пераехаў на Беласточчыну, дзе быў прызначаны дырэктарам школы, некалькі разоў у Беластоку сустракаўся і гутарыў з Хведарам Ільяшэвічам — рэдактарам беластоцкай беларускай газеты „Новая дарога”.

У гады вайны Аляксей Анішчык працаваў выкладчыкам настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку, удзельнічаў у рабоце ІІ Усебеларускага кангрэса. Пасля вайны жыў у Кракаве, працаваў у розных выданнях. Але ў 1948 годзе яго арыштоўваюць савецкія спецслужбы і прывозяць у Мінск. Савецкі трыбунал прыгаварыў яго да расстрэлу, аднак смяротнае пакаранне хутка было заменена на 25 гадоў лагераў строгага рэжыму.

На Поўначы Аляксей Анішчык адбыў 14 гадоў і вярнуўся дамоў.

Аднойчы ён напісаў ліст у беластоцкую „Ніву”, а праз пэўны час атрымаў адказ з БГКТ, у якім яго запрасілі на працу на пасаду кіраўніка аддзела культуры ў Галоўным праўленні БГКТ. Такая прапанова Аляксея Анішчыка задаволіла і ён паехаў у Беласток. Гэта была другая палова 1960-х гадоў.

Сапраўды, хутка Аляксей Анішчык стаў працаваць у БГКТ, наладзіў добрыя стасункі з „Нівай”, дзе друкаваў уласныя матэрыялы.

У сваёй кнізе *Беларуская адысея* (Вільня 2005-2006) Аляксей Анішчык прыгадвае: „У „Ніве” друкаваліся даволі часта вершы Баршчэўскага, які мне тады паказаўся ў нейкай меры прэтэнцыёзным і ганарыстым... Самыя шчырыя і нават сардэчныя суадносіны завязаліся ў нас са Шведам і Юзвюком. Швед быў стопрацэнтна тыповым сынам беларускай вёскі. Стрыманы, сціплы, спагадлівы і працавіты, ён быў да дна душы шчырым і добрым, учыным інтэлігентам (падкрэсліваю гэта слова). Прыроджаны такт і добразычлівасць паглыблялі абаяльнасць гэтага чалавека, а паэтычны талент (у асноўным, дзіцячая тэматыка) як бы стваралі арэол рамантычнасці... Юзвюк умеў працаваць... Я, наглядаючы за стылем працы Юзвюка, мімаволі заўважаў штодзённы парадак у яго працы, паперах, прыладах...”.

У Беластоку Аляксей Анішчык шчыра пасябраваў з калектывам ансамбля „Лявоніха”, які выступаў з канцэртамі на Беласточчыне. Ансамбль у той час быў вельмі папулярны. Напрыклад, у верасні 1966 года „Лявоніха” дала пяцісоты канцэрт. А пяцьсот першае выступленне было ў вёсцы Шымкі Беластоцкага павета перад школьнікамі.

Аднойчы, як прыгадвае ў сваёй кнізе *Беларуская адысея* Аляксей Анішчык, яны сядзелі ў памяшканні БГКТ і гутарылі пра жыццё-быццё. Былі там Анішчык, Уладзімір Юзвюк, Мікалай Лобач і Мікалай Куц, які працаваў у гарадской управе. Лобач сказаў, што абрыдзела тут жыць у гэтым „шалмане і здзеку польскіх шавіністаў”. „Едзь-едзь на Беларусь! — сказаў яму Анішчык. — Там паспрабуеш чэкісцкай ласкі, дык будзеш ва ўсе лапаткі перціся назад”.

Пасля гэтай гутаркі Анішчыка праз пару дзён выклікалі камендант ваяводскай управы паліцыі і следчы. Ва ўспамінах Аляксей Анішчык прыгадвае: „Спярша камендант запытаў, як даўно я прыехаў (хоць яны ўжо ўсё пра мяне дасканальна ведалі), з якой мэтаю і што думаю далей рабіць. Я коратка адказаў, што жыву ў Польшчы другі год. Польшча мне не чужая — тут канчаў універсітэт, шмат гадоў працаваў і дабравольцам бараніў Варшаву ў часе нямецкай інвазіі... А Беласточчына для мяне амаль родная, бо я працаваў тут дырэктарам школы і маю шмат блізкіх сяброў — так беларусаў, як і палякаў. А калі ўсё пойдзе ладом, то мажа ізноў пайду працаваць у школу.

У часе гэтай размовы другі функцыянер (праўдападобна з польскага УБ — гэта значыць — бяспекі) часта ўмешваўся, задаючы колкія і нават злосныя пытанні і нешта запісваючы. Пратрымалі мяне каля гадзіны і развіталіся. Хутка выявілася, што Куц быў стукачом, настрачыў на мяне данос і перадаў свайму начальству ва УБ. Хутка паліцыя выклікала Юзвюка і дала яму такую галавамойку, так запалохала, што ён запрапанаваў мне неадкладна выязджаць з Беластока, хоць яму гэтага вельмі не хацелася. Сітуацыя была яснай: энкавэдысты Беларусі баяцца, што магу расказаць зашмат праўды пра жыццё ў савецкай імперыі...”. (*Беларуская адысея*, с. 292-293).

Хутка Аляксей Анішчык пакінуў Беласток і прыехаў на Віленшчыну ў Эйшышкі. А потым перасяліўся ў Вільню, дзе і пражыў да канца свайго жыцця. Там прымаў самы актыўны ўдзел у беларускім руху. Ён узначальваў суполку віленскіх беларускіх палітвязняў, быў адным з заснавальнікаў беларускай школы ў Вільні, уваходзіў у склад рэдкалегіі старонкі „Беларус Віленшчыны”.

З Аляксеем Анішчыкам я шмат гадоў перапісваўся, захаваліся яго лісты, успаміны, кнігі з аўтографамі. Дарэчы, спадар Аляксей за доўгае жыццё сабраў добрую бібліятэку кніг, калекцыю музычных інструментаў. А яшчэ ён шмат пісаў на польскай, рускай і вядома ж на роднай мовах. У канцы ХХ стагоддзя адна за адной выходзілі яго кнігі: кніга вершаў на рускай мове *Жизнь живым принадлежит* (1996), вершы і нарысы *За калючым дротам* (1996), *Мондзінская балада* (1996), кнігі артыкулаў і ўспамінаў *Партрэты*, *Выбраныя Богам*, *Сяргей Хмара* і іншыя. Але самым каштоўным выданнем Аляксея Анішчыка была і застаецца кніга *Навагрудская беларуская гімназія* (Вільня 1997) з прадмоваю вялікага беларуса, акадэміка Барыса Кіта. Усе вышэй пералічаныя кнігі спадар Аляксей Анішчык пры жыцці прыслаў з аўтографамі мне. На кнізе *Навагрудская беларуская гімназія* аўтар напісаў: „Паважанаму Сяргею Чыгрыну з самымі шчырымі пажаданнямі поспехаў у яго публіцыстычнай і літаратурнай творчасці. Вільня, 27.02.1999 г. Аўтар Аляксей Анішчык”. А на зборніку *За калючым дротам* напісаў: „Паважанаму Сяргею Чыгрыну з найлепшымі пажаданнямі. Аўтар Аляксей Анішчык. Вільня, 27.02.1997 г.”. Пішу гэта не дзеля таго, каб пахваліцца аўтографамі Анішчыка, а дзеля таго, што часта перачытваю, пераглядаю ўсе выданні забытага беларускага аўтара. Звярну ўвагу, што Аляксей Анішчык вельмі шмат сваіх паэтычных радкоў прысвяціў сваякам, сябрам, знаёмым, а таксама вядомым беларусам і тым мясцінам, дзе жыў, працаваў, бываў. У паэтычных зборніках сёння згубіліся і тры вершы Аляксея Анішчыка, прысвечаныя Беласточчыне. Яны былі напісаны якраз тады — у 1967-1969 гадах, калі Аляксей Анішчык жыў у Беластоку. Гэта вершы „Беласток”, „Белавежа” і „Прывітанне” — апошні прысвечаны ансамблю БГКТ „Лявоніха”.

Прапаную чытачам „Нівы” беластоцкія вершы Аляксея Анішчыка (Андрэя Чэмера).

Тэкст і фота Сяргея ЧЫГРЫНА

## Беласток

Трывожнае сэрца і пытлівы крок
Ізноў прывялі да цябе, Беласток.
У гомане шумнай людской грамады
Здаецца я зноў, як калісь, малады.
Таксама цяпер, як даўней, як учора,
Хвалюецца натоўпу шумнае мора.
Іскрацца задорам юначыя вочы
І сыплецца срэбрам, звініць смех дзявочы.
Касцёлаў і цэркваў гучыць перазвон...
Прыміце ж вы, сведкі вякоў, мой паклон!
Хоць шчыра скажу, што пашаны нямала
Ў мяне і да новых, сучасных кварталаў.
Тут многія пнуцца да хмар этажы
І зверху глядзяць на старыя крыжы...
Тут слухаюць кросен бязлікіх стук часты
Сапраўдныя цуды: Антонюк і Фасты!
Каханне і радасць, смутак і гора
Вядуць нас у парку зялёнае мора —
Ў зацішныя сцежкі, дарожкі, альтаны...
Між імі шумяць, серабрацца фантаны,
А там за дарогай імкнуцца далей
Квадраты узорных дыванаў, алей...
Прыпынак тут мае народ усялякі:
Спрадвеку жывуць беларусы, палякі,
Татары, расейцы і жмудзь, ліцьвіны
І нават Славаччыны братняй сыны.
Мне радуе сэрца іх праца і згода
На славу Айчыне, на славу народа.
І радасцю шчырай засціцца зрок,
Калі я гляджу на цябе, Беласток.

1967 г.

## Белавежа

Морам зялёным раскінула межы
Магутная пушча вакол Белай вежы,
А побач спрадвеку, праз тысячы год
Прыбоем шумеў беларускі народ.
Любімая, родная маці-зямля!
Твая жыватворная вечная сіла
І нас, і чужынцаў, і зубра-камля
Ў добрыя, цяжкія годы карміла.
Народы, як грозныя хвалі сівыя,
Ўсцяж залівалі твае берагі.
Падзеяў крывавых вятры штурмавыя
Наносілі раны на край дарагі.
І жэрла тваё дабрадзейнае цела
Навала чужацкая так, як хацела,
Хоць часам ламала крывавыя зубы
Аб косці-лясы твае, краю мой любы...
Па нетрах зялёных гулялі тэўтоны,
Тапталі і зубраў знішчалі цары...
Татары калісьці, не знаючы стомы,
Палілі пасёлкі, лясы і двары...
Знішчалі чужынцы зялёнае мора,
Дзяўчат паланілі на ганьбу і здзек...
І тысячы мерлі ад цяжкага гора,
Ды выжыў усё ж такі наш чалавек!
Прымі ж мяне, краю пушчанскі, свабодны,
З табою мы шчыра, навекі сябры!
Бо ты для мяне, як заўсёды, быў родны,
Як родныя мне і лясы, і зубры!..
Хай песні пра шчасце співаюць вяршыні
Магутных, нязлічаных сосен, дубоў,
Хай казкі снуюць беластоцкай дзяўчыне,
Хай сны навяваюць пра шчасце, любоў...
У змроку тваіх пераплеценых кронаў
Турыст для турыста і друг, і зямляк.
Навокал без ненавісці, без праклёнаў
У дружбе жывуць беларус і паляк.
Магутная пушча ніколі не згіне,
Зубрам дасць апеку на тысячы год!
Служыць будзе верна народнай Айчыне,
Таксама як ты, беларускі народ!

1968 г.

## Прывітанне

*Ансамблю БГКТ „Лявоніха”*

У смутку і ў каханні, у шчасці і ў бядзе
„Лявоніха” з бадзёрай песняю ідзе.
Цяпла і смеху, жартаў і ласкі хоць крыху
Мы з радасцю прыносім пад кожную страху.
Вітаюць вас сардэчна між нівай і бяроз
Наш паважаны Крупа і Марыся Мароз!
Адкрытым, шчырым сэрцам і поціскам рукі
Вітаюць вас і Янка, і Люба Блізнюкі!
Няхай жа танцам звонкім усіх нас развяселіць
Наш гарманіст вясёлы — Станіслаў Станкевіч!
Каб радасным і звонкім быў сэрца перастук,
Пацешыць жартам, песняй вас Юрка Гаўрылюк!
Як музыка зайграе, дык ножанькі стук-стук!
Не ўседзяць, як станцуе вам Оля Андраюк...
Жадаем вам сардэчна, каб сонца шчасця, згоды
І добрага настрою свяціла вам заўсёды!..

1969 г.

ISSN 0546-1960